# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1872) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 29 САКАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## СУСТРЭЧА Ў МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ

9 сакавіка г.г. у Варшаве міністр культуры і мастацтва Анджэй Сіцінскі сустрэўся з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый з мэтай пазнаёміцца з пытаннямі нашага асяроддзя. Міністр мог прызначыць на гэта толькі гадзіну часу і на яе працягу прадстаўнікі паасобных арганізацый паінфармавалі міністра аб сваіх праблемах. Выступілі: Канстанцін Майсеня (Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры), Ўген Чыквін (Праваслаўнае брацтва), Пятро Крук (Беларускі выбарчы камітэт), Віктар Швед (Рада беларускіх арганізацый), Віталь Луба („Ніва"), Аляксандр Баршчэўскі і Янка Сычэўскі (БГКТ), Ян Чыквін (Літаб'яднанне „Белавежа"), Юрка Сульжык (БАС), Славамір Іванюк („Часопіс"), Алег Латышонак і Віктар Стахвюк (БДА). Прамоўцы фармулявалі таксама пастулаты ад сваіх арганізацый у адрас Міністэрства культуры і мастацтва, а былі гэта перш за ўсё просьбы фінансаваць пабудову Музея, выдавецкую дзейнасць і арганізацыю культурных мерапрыемстваў, паджаных паасобнымі арганізацыямі.

На гэтай сустрэчы выявіўся таксама канфлікт паміж БДА і БГКТ. Прадстаўнікі БДА прадставілі канцэпцыю стварэння ў Беластоку Цэнтра беларускай культуры і выказалі сваю незадаволенасць тым, што БГКТ надалей фінансуецца Міністэрствам (Алег Латышонак паставіў Міністэрству закід, што яно дае датацыю БГКТ — арганізацыі, якая яшчэ дагэтуль не змяніла свайго статута і згодна яму павінна далей будаваць сацыялістычны лад у Польшчы). Нагадаю, што БДА прапануе стварыць на базе БГКТ Цэнтр Беларускай культуры — установу, якая фінансавалася б Міністэрствам культуры і мэтай якой было б арганізаванне культурнага жыцця ў беларускім асяроддзі. Прадстаўнікі БГКТ паяснілі, што яны не выступаюць супраць ідэі Цэнтра (прапануюць стварыць такі ў Гайнаўцы), але супрацьстаўляюцца спробам забіраць у іх будынак і рухомую маёмасць, якую арганізацыя прыдбала ў мінулым. Заявілі яны таксама, што зараз Міністэрства дае датацыю толькі на арганізацыю мерапрыемстваў і абвергл закід аб палітычнай дзейнасці Таварыства.

З выказванняў міністра Анджэя Сіцінскага і прысутнай на сустрэчы дырэктар дэпартамента Багумілы Бэрдыхоўскай стала ясна, што Міністэрства не будзе ўмешвацца ва ўнутраныя спрэчкі ў беларускім асяроддзі, а кожная арганізацыя, якая праявіць цікавую ініцыятыву, можа спадзявацца на падтрымку з боку Міністэрства. Дырэктар Багуміла Бэрдыхоўская паясніла, што БГКТ не атрымоўвае грошай на зарплаты працаўнікам і арэнду будынкаў, а толькі на арганізацыю канкрэтных мерапрыемстваў. Паінфармавала яна таксама, што бюджэт на культуру для меншасных асяроддзяў будзе ў гэтым годзе вельмі скромны і нельга ў такіх умовах разлічваць на рэалізацыю новых ініцыятываў (з прапанаваных на 1992 г. 16 мільярдаў зл. Міністэрства атрымала на I квартал толькі 1,6 млд.). Справа бюджэту канчаткова вырашыцца на красавіцкім пасяджэнні Сейма.

(л)

## ЖЫЦЦЁВАЯ ПАСІЯ АЙЦА ЮРЫЯ ШУРБАКА

Царкоўныя літургічныя спевы, ствараючыя як бы музычную ікону праваслаўя, да сёння з'яўляюцца спадчынай гэтага веравызнання, да сёння захапляюць сваёй глыбінёй і экзотыкай прадстаўнікоў розных іншых веравызнанняў.

**Айцец Юрый Шурбак** з'яўляецца мастацкім кіраўніком і дырыжорам Ансамбля царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы, які стварыў ён роўна 20 гадоў таму назад. Такім чынам, сёлета хор святкуе свой юбілей — і мы, карыстаючыся нагодай, што а. Юры Шурбак узяў удзел у працах журы цэнтральнага агляду „Беларуская песня '92" (адбыўся 29 лютага—1 сакавіка г. г. у Беластоку), папрасілі ў яго расказаць хоць крыху пра сваю дзейнасць.

**— Айцец Юрый, нашаму сталаму чытачу ўжо вядома, што Вы — наш зямляк...**

— Бо нарадзіўся я ў Бельску, там жа закончыў ліцэй імя Тадэвуша Касцюшкі і на Бельшчыне ставіў свае першыя крокі пасля студыяў.

**— Калі пачалася Ваша артыстычная дзейнасць?**

— Больш 30-ці гадоў таму назад. Будучы студэнтам, я ўжо з 1962 года вёў семінарска-акадэмічны хор. Пасля акадэміі ў 1965—68 г.г. я вёў беларускі хор у Бельску (тады ён яшчэ не называўся „Васілёчкі", а хор БГКТ), у 1967-68 г.г. кіраваў таксама эстрадным калектывам „Лявоніха", які існаваў пры Беларускім таварыстве.

**— Айцец Юрый! Але ж Вы навучаліся ў Варшаве не артыстычнай дзейнасці?..**

— Ĭ тут вы трапілі ў самую сутнасць справы. Тады паслухайце!

( Працяг на стар. 6 )



## МІТРАПАЛІТ БАПЦ У БЕЛАСТОКУ

11 сакавіка наведаў Беласток мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Амерыцы Мікалай. Суправаджалі мітрапаліта ў ягоным падарожжы старшыня фонду БАПЦ дапамогі ахвярам Чарнобыля спадар Васіль Русак і старшыня Згуртавання беларусаў Канады Мікола Ганько (ён жа таксама дырэктар Канадскага дабрачыннага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля). У Беластоку мітрапаліт сустрэўся з архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савай, а затым адведаў рэдакцыю нашага тыднёвіка.

У Беласток мітрапаліт Мікалай прыехаў з Менска, дзе прабываў па запрашэнні Беларускага народнага фронту. У Менску мітрапаліт Мікалай сустрэўся з мітрапалітам Філарэтам і старшынёю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам. Адслужыў таксама літургію ў Курапатах.

Расказваючы пра свае ўражанні ад побыту ў Беларусі, мітрапаліт сказаў, што ягоная ўява пра Беларусь, пакуль ён туды паехаў, была крыху іншай, чым тое, што ён там пабачыў. Беларусь цяпер вельмі знішчаная, сказаў мітрапаліт, але радасна ад таго, што краіна абуджаецца. Абуджэнне гэтае адбываецца не толькі ў старэйшых людзях, якія памятаюць сваю родную мову, але самае галоўнае — у моладзі. Параўноўваючы пабачанае ў Беларусі са сваімі ўражаннямі на Беласточчыне, мітрапаліт Мікалай сказаў, што Беласточчына далёка апярэдзіла Беларусь у матэрыяльным сэнсе. Тут, гаварыў ён, у кожнага свая гаспадарка, свой двор — людзі пра гэта дбаюць. Гледзячы на гэта звонку — усё робіць як найлепшае ўражанне.

Беларуская Царква ў эміграцыі, сказаў спадар Мікола Ганько, стваралася з вялікімі цяжкасцямі і з вялікім укладам працы ды матэрыяльных сродкаў. Царквы ніхто нам не даў, ніводнай цаглінкі, ніводнага квадратнага сантыметра зямлі. Трэба было альбо купіць гатовы будынак, альбо купіць зямлю ды пабудаваць там царкву. Ніхто пра гэта не гаворыць. На бацькаўшчыне і тут, на Беласточчыне, думаюць, што гэта ЦРУ валіла ў беларускую эміграцыю сотні тысяч, ці нават мільёны, а праўда такая, што нам ніхто не даў ніводнага цэнта. Намі ніхто не цікавіўся, бо беларуская дзяржава не існавала, а савецкая нас абмінала. Усё, што беларуская эміграцыя дасягнула — зрабіла за свае грошы. У свой час, сказаў Мікола Ганько, кожны з нас аддаваў дзесяць працэнтаў сваёй зарплаты на беларускі друк ды іншыя патрэбы эміграцыі. Знайшліся людзі, якія, усведамляючы патрэбы эміграцыі, пайшлі ў святары, атрымалі свячэнні, а затым вучыліся, як служыць свайму народу. Першая беларуская парафія заснавалася ў Канадзе — на яе патрэбы закупілі мы звычайны жыллёвы дом, у ім памясцілі капліцу ды іншыя ўстановы дзеля нашых патрэбаў.

Беларуская Царква ў эміграцыі захавала самабытнасць тае эміграцыі, бо задавальняла ейныя нацыянальныя духоўныя патрэбы. Кожны народ, сказаў Мікола Ганько, у якога рэлігія з'яўляецца часткай яго структуры, разумее, што

( Працяг на стар. 3 )




## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Частка IX**

Ідэя новай хрысціянізацыі гучыць як бы грозна. Бо адкуль вядома, ці камусьці не прыйдзе ў галаву рабіць гэта сілай.А гэта было б самае страшнае і азначала б, што дабравольна адкідваемся ў свет нейкага экстрэмальнага фундаменталізму. Такая ідэя нічога не абазначае, апрача свабоднага прапагандавання. Ідзе гутарка аб гістарычнай кампенсацыі, якая заключаецца ў тым, што прыгнечаныя на працягу сямідзесяці гадоў веравызнанні атрымаюць поўнае права прапагандаваць сваю рэлігійную філасофію. Сказанае адносіцца таксама да ідэі атэістычнай, не можа быць яна забаронена, так як не забаронена яна ў ніводнай заходнееўрапейскай краіне. Грамадзянін Рэспублікі Беларусь павінен мець поўнае права насіць у кішэні любы партыйны білет і насіць у сэрцы любога Бога. Думаю, што ўсё ж такі ў такім свабодным спаборніцтве маюць у Беларусі найбольшыя шанцы праваслаўныя, каталікі, уніяты і баптысты. А ўсе гэтыя веравызнанні маюць хрысціянскі характар. Значыць, у Беларусі будуць напэўна дамінаваць хрысціянскія веравызнанні, а не якія-небудзь ісламскія фундаменталізмы.

Знаходзячыся ў Рэспубліцы Беларусь, сутыкнуўуся я некалькі разоў з выказваннямі беларускіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета аб тым, што ў Беларусі трэба ўстанавіць новую, „дзяржаўную рэлігію”. Прынамсі тыя, хто са мной вёў размову, даказвалі, што гэтай рэлігіяй павінна быць унія. І вось такога пункту гледжання не разумею. Не разумею, што гэта значыць „устанавіць рэлігію”. Ці ж гэта не быў бы паварот да паншчыны, калі наогул паны накідвалі сваім прыгонным тое веравызнанне, якім кіраваліся самі? Думаю, што была б гэта адна з дзікасцей, якая абсалютна непрыемлімая ў канцы другога тысячагоддзя Хрыстовай веры пры сённяшнім узроўні цывілізацыі.

Тып выбранай сабе рэлігіі можа быць выкліканы толькі індывідуальным розумам і клічам уласнага сэрца, а не якога-небудзь дзяржаўнага акта, ці воляй правадыра.

Поўны крах ленінскай і сталінскай ідэалогій даказвае канчаткова, што ўсякія накінутыя ідэі раней ці пазней пацерпяць крах. Тое ж самае было б і з накінутымі народу рэлігіямі. А што датычыцца уніятаў, дык вядома, што на працягу доўгага гістарычнага перыяду спачатку цары, а пасля Ленін і Сталін жорстка іх праследавалі. Зразумела, што ў рамках гістарычнай кампенсацыі павінны яны сёння мець тыя самыя правы і магчымасці, якія маюць усе іншыя веравызнанні на Беларусі. Роўныя правы, а не якія-небудзь прывілеі, нейкія спецыяльныя магчымасці, якіх не маюць іншыя рэлігіі.

Я асабіста як чалавек праваслаўнай прыналежнасці не хацеў бы, каб праваслаўны абшар на Беларусі быў звужаны ў рэзультаце экспансіі якой-небудзь іншай рэлігіі. Аднак на гэта няма рады. Няхай свабодна спаборнічаюць розныя веравызнанні і няхай стануцца іх уласнасцю тыя абшары, якія яны здабудуць у чалавечых сэрцах. Толькі няхай дзяржава ні сваім аўтарытэтам, ні сваёй сілай не дапамагае адным і не перашкаджае другім.

Зразумела, што тэарэтычныя разважанні гэта адно, а практычныя дзеянні гэта другое. Вельмі лёгка апрацаваць канстытуцыі, статуты, рэгламенты, крытэрыі, але не так проста прымяняць іх у жыцці. Тут часта бяруць верх чалавечыя эмоцыі, нянавісць і эгаізм. Несумненна, так яно будзе і на Беларусі. Зрэшты, памятайма, што на нашых землях дзесяць стагоддзяў таму назад уводзілася уніяцтва не толькі крыжам, але і мячом. Аднак, на працягу тысячы гадоў чалавецтва паразумнела і хацелася б, каб, вырашаючы сёння рэлігійныя праблемы і імкнучыся да пашырэння веравызнанняў, яно карысталася выключна крыжам, а не мячом. Будзем верыць, што беларуская дзяржава ў гэтай справе адыграе ролю не старонніка, а аб'ектыўнага і талеранцыйнага назіральніка, арбітра і справядлівага пасрэдніка.

АЛЕСЬ БАРСКІ

****************************************************************************




14 сакавіка г.г. у Белавежскай пушчы на тэрыторыі Беларусі сустрэліся прэм'ер-міністры Польшчы — **Ян Альшэўскі** і Беларусі — **Вячаслаў Кебіч**. Вынікі нечаканага спаткання прэм'ер-міністраў ва ўрадавай рэзідэнцыі ў Віскулях паказваюць на далейшае набліжэнне ў польска-беларускіх адносінах. Галоўнай тэмай перамоваў былі пытанні гаспадарчага супрацоўніцтва і праблемы нацыянальных меншасцяў.

**Польскае міністэрства замежных спраў** перадало дыпламатычнаму прадстаўніку Літвы ў Варшаве пратэст супраць адтэрмінавання самаўрадавых выбараў у раёнах, дзе пражывае польская нацыянальная меншасць, а таксама супраць абвінавачання шасці палякаў — дэпутатаў у літоўскі парламент, якім ставіцца закід вядзення дзеянняў, парушаючых суверэнітэт Літвы. МЗС лічыць, што такія крокі не служаць паляпшэнню польска-літоўскіх адносін.

**У Стамбуле**, пад старшынствам Канстанцінопальскага экуменічнага патрыярха **Варфаламея I**, адбылося спатканне прадстаўнікоў Праваслаўных цэркваў з мэтай абмеркаваць канфліктныя адносіны паміж Ватыканам і Праваслаўем, перш за ўсё ва ўсходніх краінах.

Да паловы сакавіка зарэгістравана было ў Польшчы **129 партый**. Закон аб партыях дазваляе дзейнічаць таксама і незарэгістраваным арганізацыям і таму лік партый, зарэгістраваных у Ваяводскім судзе ў Варшаве (адзіным упаўнаважаным да гэтага), не абазначае сапраўднай іх колькасці. Партый ёсць напэўна больш і ўсе яны легальныя, з тым, што зарэгістраваныя маюць статус юрыдычнай асобы.

У Беластоку пачалася падрыхтоўка да пабудовы **каранічнай школы**, якая будзе служыць не толькі мусульманам у нашай краіне, але таксама ў Беларусі і Расіі. Напачатак у школе будуць весціся заняткі па рэлігіі для дзяцей і моладзі, курсы па Карану, арабскай мове і ісламскай літаратуры. Потым плануецца стварыць студыум для будучых імамаў, муэзінаў і настаўнікаў рэлігіі. Грошы на пабудову школы (ад міжнародных мусульманскіх кругоў) ужо паступаюць у адзін са швейцарскіх банкаў у Жэневе. У планах прадбачваецца, апрача самой школы, інтэрнат, бібліятэка і чытальня.

Неўзабаве (3 красавіка) у Доме тэхніка ў Беластоку адбудзецца **II Беластоцкі кніжны кірмаш**, які арганізуе выдавецтва „Тотус”. Аб удзеле ў кірмашы заявіла ўжо 20 выдавецкіх фірмаў з Польшчы, а таксама выдаўцы з Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

**Паліцыя ўзарвала ў паветра** пры дапамозе ўзрыўчаткі самагонную фабрычку, якую яны знайшлі на дрыгвяністых балотах каля Чорнай-Беластоцкай. Было знішчана: 1500 літраў брагі, абсталяванне і адмысловая студня.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЦІ ЎЗАРАЕМ СВАЮ НІВУ ШЫРОКА, ГЛЫБОКА?

З трывогай сустрэлі вясну беларускія сяляне. Хутка надыдзе час сяўбы, а большасці сельскіх гаспадарак рэспублікі не хапае паліва для аўтамабіляў і трактараў.

### БЕЛАРУСКІЯ ПУТЧЫСТЫ МОГУЦЬ СПАЦЬ СПАКОЙНА

Пракуратурай Рэспублікі Беларусь спынена крымінальная справа па факту ўдзелу некаторых лідэраў кампартыі Беларусі, а таксама высокапастаўленых дзяржаўных чыноўнікаў у жнівеньскім путчы.

Падставай для гэтага, на думку следства, з'яўляецца тое, што ніхто з падазроных кіруючых работнікаў рэспублікі не ўчыніў рэальных дзеянняў па захопу ўлады на Беларусі. Ніводзін з беларускіх путчыстаў не садзейнічаў маскоўскім змоўшчыкам парадамі, указаннямі, прадастаўленнем сродкаў ці ліквідацыяй перашкод.

А што датычыць палітычнай падтрымкі хунты кіраўніцтвам кампартыі рэспублікі, то гэта, лічыць следства, усяго толькі грамадская пазіцыя людзей. А за светапогляд ніхто не можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

Праўда, на думку дэпутатаў спецыяльнай парламенцкай камісіі, путч на Беларусі ўсё-такі адбыўся. Яго фактычна падтрымалі кіраўнікі праваахоўных органаў (за выключэннем КДБ), а таксама многія міністры. Аднак, з вывадамі камісіі не пагадзіліся не толькі работнікі пракуратуры, але і Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі.

### КІРАВАЦЬ ГРАМАДСКАЙ ДУМКАЙ БУДЗЕ ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНЫ КУХАР

Кіраўніцтва беларускага ўрада ў чарговы раз прадэманстравала сваю пракамуністычную накіраванасць, на практыцы амаль ажыццявіўшы ідэю Леніна аб тым, што ў Краіне Саветаў кіраваць дзяржавай можа кожная кухарка.

А справа ў тым, што буйнейшае ў рэспубліцы выдавецтва „Беларускі дом друку” перададзена ў падпарадкаванне гаспадарчаму ўпраўленню Савета Міністраў. Фактычна гэта ўпраўленне, якое кіруе ўрадавымі гаражамі і сталовымі, займела манаполію на цэнтральныя сродкі масавай інфармацыі Беларусі. Калі ўлічыць, што прэса з'яўляецца чацвёртай уладай, то атрымліваецца парадаксальная сітуацыя — высокапастаўленыя кухары ў значнай ступені могуць уплываць на фарміраванне грамадскай думкі.

### СПАДЧЫНА РЭРЫХА Ў ГОСЦІ ДА НАС

У менскім Палацы мастацтваў адкрылася выстава карцін славутага Мікалая Рэрыха.

У экспазіцыі прадстаўлена 80 палотнаў мастака з серыі „Гімалаі”. Між іншым, усе карціны экспануюцца на Беларусі ўпершыню.

### АПРАЎДАЕ НАС ДАПАМОГА НАША

Падобна на тое, што былыя воіны-афганцы гатовыя вярнуцца ў Афганістан „замольваць свае грахі”. Так вырашылі члены зарэгістраванага нядаўна міжнароднага фонду „Адраджэнне Афганістана” на першым устаноўчым сходзе. У межах праграмы аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі Афганістана хлопцы з Беларусі будуць займацца размініраваннем тэрыторыі, зборам пашкоджанай тэхнікі.

### НАВОШТА БЕЛАРУСІ ТАКАЯ „БЕЛАРУСЬ”?

На мінулым тыдні яшчэ адна арганізацыя ўзяла на сябе смеласць гаварыць ад імя Беларусі. У парламенце ўзнікла дэпутацкае аб'яднанне „Беларусь”. Удзел у гэтым клубе ўзялі 80 дэпутатаў, у асноўным гаспадарчыя работнікі, прадстаўнікі дзяржаўных структур. Новае аб'яднанне не збіраецца ўступаць у блокі з іншымі парламенцкімі групамі. Праўда, супрацьвагу апазіцыі Беларускага народнага фронту „магутная кучка” усё ж мае намер арганізаваць. А канчатковая мэта „Беларусі” шляхам эканамічных пераўтварэнняў вывесці Айчыну з крызісу.

Зрэшты, мяркуючы па складу „Беларусі”, пад святой для беларусаў назвай сабралася звычайнае агра-прамысловае лобі, якое будзе ажыццяўляць найперш палітыку пракамуністычнага Савета Міністраў рэспублікі.

### ЕДУЦЬ САЛДАЦІКІ ДАМОЎ

Парламент Рэспублікі прыняў рашэнне адазваць на Радзіму беларускіх хлопцаў, якія служаць у Закаўказзі. Дзякуй Богу, нарэшце, народныя выбраннікі зразумелі, што беларусам няварта рызыкаваць жыццём у гэтых неспакойных рэгіёнах.

Дарэчы, невядома пакуль, хто прымусіў амаль паўтары тысячы грамадзян суверэннай Беларусі служыць чыімсьці інтарэсам так далёка ад Бацькаўшчыны. Нагадаю таксама, што ў мінулым годзе Вярхоўны Савет рэспублікі забараніў пасылаць беларускіх хлопцаў у „гарачыя кропкі” былой савецкай імперыі.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА




- Як купіць і прадаць на Беларусі?
- Помнікі культуры – храм у Чорнай–Царкоўнай.
- Літаратурны лісток і духоўныя творы.
- Запрашэнне ў Летнюю школу беларусістаў.
- У дапамогу настаўнікам геаграфіі.

# МІТРАПАЛІТ БАПЦ У БЕЛАСТОКУ

рэлігія — гэта душа народу. Нельга такім чынам адмежаваць грамадскае жыццё ад рэлігійнага. Там, дзе такое адмежаванне хочуць рабіць — пачынаецца ўмешванне ў душу чалавека, якое перашкаджае поўнаму развіццю грамадства. Паміж Беласточчынай і эміграцыяй розніца такая, што царкоўнае будаўніцтва на Беласточчыне цягнулася стагоддзямі, а ў эміграцыі трэба было пачынаць адразу і з нуля, сказаў Мікола Ганько. У эміграцыі, дапоўніў ён, аказалася больш зразумення таго, што такое нацыя і што такое царква. Тут, на Беласточчыне, да пэўнай ступені Царква хоча існаваць самастойна, як нешта агульнае, без дакладна вызначанай мэты — Царква служыць Богу і людзям. Не толькі Богу, але і людзям. Такое наша разуменне, сказаў Мікола Ганько.


*У нашай рэдакцыі: мітрапаліт Мікалай і Антон Міранові́ч.*


*Мікола Ганько, Васіль Русак, Віктар Стахвюк.*

Мітрапаліт Мікалай, каментуючы адбытыя ім сустрэчы з мітрапалітам Філарэтам і архіепіскапам Савай, сказаў: „Сустрэча з мітрапалітам Філарэтам, думаю, была крыху больш спрыяльная для нас, чым тая тут, у Беластоку". Праваслаўная Царква, сказаў яшчэ мітрапаліт Мікалай, павінна ісці ў кірунку спрыяння беларускаму руху, захавання беларускай мовы і нацыянальнай свядомасці. Я думаю, дадаў мітрапаліт, што час такі прыдзе.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

***

Раніцай Беларусі, распятай Іосіфам Пілатам,
Я абмываю хрупкі сон дзяцей,
Каб не прысніўся ім ягоны цень
І жар ў Хатыні гарэўшых хатаў,

Адкуль астыўшую слязу расплаўленай падковы
Я забяру з сабой на страшны суд.
Там ветрам слоў рашчэсану расу
Рассыплю я на роднай мове

Пра Беларусь, абдзертую з вякоў у спальні з тронам,
На атамным крыжы распяту,
З душой, расстрэленай у Курапатах,
харонену двухмоўным звонам.

Хай уваскрэсне з мукаў на світанні,
Надзеяй сэрцы нам напоўніць!
Сярод другіх народаў роўнай
З належным гонарам хай стане!

**В. Стахвюк**

1988, Беласток

## АДГУКНІЦЕСЯ, „ДУБЫ" І „БЯРОЗЫ"!

Да вас, аўтары „Нівы", чытачы і карэспандэнты, якія на працягу гадоў выступалі пад рознымі мянушкамі, звяртаюся. Нарадзілася ў нас ідэя стварыць слоўнік ніўскіх псеўданімаў. Хочацца, каб быў ён як найбольш поўным. Без вашай падтрымкі гэтага зрабіць не можам.

Патрэбны нам: ваш псеўданім, пад якім вы друкаваліся (чаму выбралі такое імя), дата і месяц вашага нараджэння, крыху вестак пра сябе (кім былі, што робіце цяпер, чаму пісалі пад псеўданімам і г.д.), год вашага дэбюту.

У вас ёсць таксама зручная нагода трапіць у вялікі слоўнік беларускіх псеўданімаў, які рыхтуецца да друку ў Менску.

Пара тады выйсці з ніўскага падполля. Падавайце заяўкі ў „Ніву".

**Г. ВАЛКАВЫЦКІ**




### PRZEŚWIETLIĆ DUSZĘ POETY!

*З просьбай надрукаваць гэты ліст на старонках „Нівы" звярнулася да нас яго аўтарка Тэрэса Занеўская. Мы палічылі мэтазгодным задаволіць гэту просьбу, паколькі ліст датычыць старшыні Літаб'яднання „Белавежа" і яго апошняга паэтычнага зборніка.*

List otwarty do Redakcji
„Przeglądu Prawosławnego"
Szanowna Redakcjo!

Kierując się Arystotelesowską zasadą, iż „drogi mi Platon, ale droższa prawda", uprzejmie informuję, iż z dniem dzisiejszym tj. 4 marca br. kończę moją współpracę z „Przeglądem Prawosławnym". Bezpośrednim powodem tej decyzji są zawiłe i pokrętne losy mojej recenzji książki Jana Czykwina „Kruhawaja czara" złożonej przeze mnie w redakcji „Przeglądu Prawosławnego" w końcu stycznia br.

21 lutego br. naczelny redaktor „Przeglądu Prawosławnego" poseł Eugeniusz Czykwin zwrócił się do mnie z wielce osobliwą prośbą dotyczącą skrócenia złożonego przeze mnie tekstu. Nie byłoby w tym niczego nadzwyczajnego gdyby nie fakt, iż zgłoszona przez posła Eugeniusza Czykwina propozycja skrótu obejmowała dwa słowa: „wspaniały" i „ceniony", które redakcja „Przeglądu Prawosławnego" postanowiła skreślić. Obydwa słowa odnosiły się do określenia Jana Czykwina jako poety i jego twórczości. Z wiadomych sobie względów — niezrozumiałych zaś w cywilizowanym świecie i nie praktykowanych przez żadną z redakcji, z którymi współpracuję przez kilkanaście lat — redakcja „Przeglądu Prawosławnego" dążyła do pomniejszenia wartości poetyckiej Jana Czykwina i Jego książki „Kruhawaja czara". Na proponowany skrót nie wyraziłam zgody.

Poseł Eugeniusz Czykwin postanowił opublikować recenzję na łamach „Przeglądu Prawosławnego" w złożonej przeze mnie wersji w najbliższym numerze (t.j. nr 2 z 1992 r.) pisma, po czym — po upływie dziesięciu dni — pod wpływem, jak stwierdził, nacisku Zespołu Redakcyjnego „Przeglądu Prawosławnego" — recenzję zdjął argumentując, iż nie mieści się ona w profilu pisma nastawionego na tematykę teologiczną, a Jan Czykwin, autor książki nie ma nic wspólnego z Cerkwią Prawosławną. „Przegląd Prawosławny" jest organem Cerkwi, więc twórca ten na łamach tego pisma zbyt często gościć nie powinien.

Ze zdumieniem przyjąłem tę „szkołę" etyki chrześcijańskiej i mam wątpliwości czy „Przegląd Prawosławny" jest aby rzeczywiście prawosławny? Chyba, że zasada „z wartościowego i prawego bliźniego zrób gorszego" jest tej doktryny wizytówką. Na pewno zaś nie była nigdy i nie będzie moją.

Ubolewać należy, iż redakcja „Przeglądu Prawosławnego" tak płytko pojmuje istotę wiary. Czy prawosławny (wierzący) to tylko ten, kto chodzi do Cerkwi, składa słowne deklaracje o miłości Boga i pali świece?

Już w pięknym wierszu „Nocny krzyk sowy", otwierającym w s p a n i a ł y (sic!) tom poezji Jana Czykwina „Kruhawaja czara" bohater pyta: „Czym jest istnienie? Kim człowiek? A kim Bóg?". W innych licznych wierszach tego zbioru poeta odwołuje się do symboli i tradycji głęboko chrześcijańskich, w których wyrósł, i które Go ukształtowały. Wymownie świadczy o tym już sam tytuł „Kruhawaja czara" zaczerpnięty z symboliki biblijnej oraz zamieszczone w tomiku ilustracje czarno-białe i barwne przedstawiające sylwetki cerkwi (s.21 oraz barwna akwarela obok) i symbole religijne: krzyż prawosławny (s. 13) oraz kapliczkę (s. 29).

Jednak, by zrozumieć intencję poety, należy wypełnić trzy podstawowe warunki:
1. Przede wszystkim p r z e c z y t a ć wiersze Jana Czykwina ze zbioru „Kruhawaja czara".
2. Zwinąć, jak pisała Wisława Szymborska, „skrzydło nienawiści"; mieć dobrą wolę i kierować się prawdziwie chrześcijańskimi zasadami.
3. Zaufać i być wiernym mądrości ludowej: „Modlić się pod figurą i nie mieć diabła za skórą", czego zrozumienie i wypełnienie nie powinno nastręczać redakcji „Przeglądu Prawosławnego" zbyt wielu trudności, gdyż znawców folkloru ma w zasięgu ręki.

Jan Czykwin jest poetą znakomitym — bez względu na to czy to się komuś podoba czy nie — o bogatym dorobku artystycznym. Jest znany i nie wymaga już ani popularyzacji, ani reklamy. Jego twórczość nobilituje kulturę białoruską i współtworzy jej uniwersalne wartości. Wzbogaca również kulturę polską. Gościć Go na łamach to powód do dumy, a nie hańba. Postępowanie redakcji „Przeglądu Prawosławnego" uważam w tej sprawie za nieuczciwe i niezgodne z chrześcijańską zasadą miłości bliźniego.

Z poważaniem

**Teresa Zaniewska**

P.S. Ostateczna wersja tytułu „Przeglądu Prawosławnego" została zaproponowana przez Jana Czykwina na posiedzeniu Rady Redakcyjnej tego pisma. I chociaż od razu propozycję tę odrzucono — dziś jak widać — jako najlepszą, przyjęto. Nazwisko pomysłodawcy tytułu pominięto. Jak uczy praktyka, sukces zawsze ma wielu ojców.

**Białystok, 4 marca 1992 r.**

# НАРОДНЫ КАНЦЭРТ У НАРАЎЦЫ

У апошні дзень лютага Нараўку наведаў ансамбль народных інструментаў са Свіслачы. Артысты выступілі ў Нараўцы і Старым Ляўкове. Зала ў Нараўцы была запоўнена слухачамі.

Ансамбль са Свіслачы дасканала іграў беларускія народныя мелодыі, а таксама больш сур'ёзныя творы. Між іншым у добрым выкананні гучалі: „Вальс" Свірыдава да аповесці Пушкіна „Мяцеліца" і „Паланез" Агінскага.

Салісты са Свіслачы спявалі народныя песні і забаўлялі гледачоў гумарэскамі на тэму вясковага жыцця.

Усе прысутныя былі задаволеныя выступленнем артыстаў з Беларусі.

Канцэрт адбыўся ў рамках супрацоўніцтва Нараўкі са Свіслаччу.

**М. ВАРАНЕЦКІ**

# „НІВА ЗАВАЯВАЛА БЕЛАВЕЖСКУ БІБЛІЯГРАФІЮ

У палове лютага г.г. выйшаў чацвёрты том „Bibliografii Puszczy Białowieskiej", які ахоплівае перыяд 1981—1985. Разам з дапаўненнем да папярэдніх трох тамоў, выдадзеных у 1969, 1976 і 1983 гадах, называецца 1988 пазіцыяў. Выходзіць, што да канца 1985 г. на тэму славутага ляснога комплексу напісана аж 7.310 матэрыялаў. Тут трэба адзначыць, што ў гэтым рэестры ўлічваюцца толькі навуковыя публікацыі, абапертыя цалкам ці часткова на матэрыяле з Белавежскай пушчы, і папулярна-навуковыя ці публіцыстычныя матэрыялы, выдадзеныя як асобныя пазіцыі або апублікаваныя ў часопісах, з тыднёвікаў пачынаючы. Не ўлічваюцца ў спісак артыкулы, якія друкуе штодзённая прэса — яны ў сваю чаргу паяўляюцца ў гадавых спісках хронік Белавежскага нацыянальнага парка.

Прыемна нам адзначыць, што ў апошнім томе бібліяграфіі называецца 157 артыкулаў, якія былі апублікаваны на працягу пяці гадоў у „Ніве". Найчасцей аб пушчы і Белавежы пісаў ніжэй падпісаны — разам 88 публікацый. 15 артыкулаў выйшла з-пад пяра памершага ў пачатку 1989 г. Віктара Рудчыка, 8 — У. Гайдука, 5 — Я. Целушэцкага, 4 — Ĭ. Кірызюка, 3 — А. Баршчэўскага. Па два артыкулы напісалі — А. Анішэўская, М. Гайдук, Вера Леўчук, В. Сельвясюк, Юры Трачук і Яніна Чэрнякевіч, па адным — Г. Аздоўская, (А.Л.), Е. Альшэўскі, А. Бергман, В. Брацкі, Т. Валкавыцкая, У. Дрэўноўскі, В. Іванюк, М. Куптэль. (В.Л.), Я. Паўлючук, Б. Рудкоўскін, Р. Сасна, М. Табарыскі, Ф. Хлябіч, Н. Чарняўскі, Я. Чыквін, М. Шаховіч, (Я.), (Я.Ц.). Называюцца і два артыкулы ананімныя.

Некалькі артыкулаў, змешчаных у „Ніве" да 1981 г. і не названых у трох першых тамах бібліяграфіі, аднатоўваюцца ў дапаўненнях. Там жа таксама можна сустрэць абмінутыя публікацыі з „Беларускіх календароў" ці іншых выданняў ГП БГКТ. Часта прыводзяцца публікацыі з праваслаўнай перыёдыкі — у сувязі з апублікаваннем Рыгорам Сасной тамоў бібліяграфіі праваслаўных прыходаў на Беласточчыне. Шмат пазіцый пераназвана з бібліяграфіі Белавежскай пушчы, састаўленай М. Кавальковым, С. Балюком і М. Буднічэнкам, а выдадзенай у 1985 г. у Менску.

Наогул у бібліяграфіі амаль на кожнай старонцы сустракаем беларускія акцэнты. Называюцца ў ёй шматлікія загаловачныя словы з пяцітамовай „Энцыклапедыі прыроды Беларусі", даклады са зборнікаў дакладаў навуковых канферэнцый, якія праходзілі на Беларусі, артыкулы з часопісаў „Весці АН БССР", „Доклады АН БССР", „Заповедники Белоруссии", „Здравохранение Белоруссии", „Родная прырода", „Голас Радзімы" і інш.

Чацвёрты том, так як і папярэднія, саставіў д-р інж. Чэслаў Аколаў, намеснік дырэктара Белавежскага нацыянальнага парка. Бібліяграфія выйшла тыражом — 1 тыс. экзэмпляраў. Заказаць яе можна ў выдаўца — Белавежскага нацыянальнага парка.

**ПЕТР БАЙКО**



## *Фота –вітрына*



Уладзіслаў Завадскі.
**Вясна.**

# ДУМКІ ДЗЕДА МІКАЛАЯ

У доўгія зімовыя вечары я часта задумваўся над будучыняй. Сельская гаспадарка развальваецца, сотні гект араў зямлі на ўсходняй сцяне Беластоцкага ваяводства ляжыць аблогам. Калі паслухаеш радыё, дык і ў цэлай дзяржаве не лепш.

Паўстаюць усё новыя партыі, розныя саюзы абаронцаў рабочых і сялян. Кожны з іх стараецца ўзлезці вышэй на мяккае крэсла, як курыца наградачку, а сапраўды нічога нікому не дапамагаюць.

Страйкаваць усе ўмеюць добра, каб кожнаму павысілі зарплату, але за рыдлёўку ці плуг ніхто не хоча схапіцца, бо гэта цяжка.

Паўстаюць розныя суполкі, пераважна гандлёвыя, бо прадаваць намнога лягчэй, чым зямлю араць і ўраджай збіраць. Многа сялян за пенсію зямлю аддало дзяржаве, мала хто перапісаў яе наследнікам, бо тыя амаль усе пайшлі ў горад. Пенсія селяніна такая, што добры гаспадар за тыя грошы сабакі месяц не пракорміць. Прыкладна, я дастаю 641 200 злотых пенсіі. Вазьмі і пражыві за іх, калі амаль кожны дзень нешта даражэе. Калі так будзе далей, то, пэўна, голад у дзяржаве настане, бо сяляне не змогуць пракарміць тых гарадскіх бюракратаў, якія растуць як грыбы пасля дажджу. Усё паўстаюць новыя ўстановы абаронцаў народу. Бароняць яго да тае пары, пакуль не высссуць апошніх грошай і не зробяць афёры ў сваю карысць.

Калі ўжо пачнуць выяўляць афёры, дык гэта цягнецца некалькі гадоў, а потым усё заціхае, бо і той, хто выяўляў, таксама быў у яе замешаны.

Калі надалей так будзе, дык хутка прыйдзе пяты разбор Польшчы. Сапраўды я гэтага вельмі баюся.

**М. ЛУК'ЯНЮК**

# „ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ" ЯЗЭПА РУШЧАНЬЦА

**(Пачатак у 11 нумары)**

- 2 -

І ў Беластоку кс. д-р Язэп Рэшэць (сапраўднае прозвішча Язэпа Рушчанца) не парывае сувязаў з беларускім асяроддзем. Яшчэ перад сваім выездам з Вільні ў 1927 г. выдае ён у Беларускай друкарні імя Францішка Скарыны „Кароткі катэхізм для беларусаў-каталікоў", а затым жа, будучы ўжо ў Беластоку, рыхтуе ў друк сваю большую працу „З гісторыі апалагетыкі хрысціянскай" (выйшла ў той жа друкарні ў Вільні ў 1928 г.). Акрамя гэтага, супрацоўнічае з віленскай „Хрысціянскай думкай" (1928-1939) ксяндза Адама Станкевіча, падтрымлівае сувязь з беларусамі, якія вучацца ў Беластоцкай настаўніцкай семінарыі. Нацыянальная беларуская дзейнасць, хаця і абмежаваная, ксяндза д-ра Язэпа Рэшэця — выкладчыка рэлігіі ў беластоцкіх школах і настаўніцкай семінарыі ізноў жа пачынае не падабацца мітрапаліту Ялбжыкоўскаму. Таму ў 1931 г. ізноў ссылаецца ён на ўскраіну Віленскай мітраполіі на беларуска-мазурскае пагранічча, спачатку ў Гелчын каля Тшцяны, а затым у Даўнары каля Граева. На гэтай тэрыторыі жыло тады яшчэ шмат беларусаў каталікоў абраду, якія, аднак, знаходзіліся пад моцным уплывам польскай культуры і мовы, а іх беларускія гаворкі падвяргаліся характэрнаму на гэтым беларускамоўным абшары мазурэнню. У сувязі з гэтым сказанае ў касцёле ў Гелчыне ксяндзом д-рам Язэпам Рэшэцем першае казанне на беларускай мове выклікала толькі недавер і супрацоўленне з боку прыхаджан, тым не менш не выклікала гэта ніякага здзіўлення, калі ксёндз карыстаўся беларускай мовай у асабістай лучнасці з вернікамі.

Ксёндз д-р Язэп Рэшэць умела, аднак, вёў сваю беларускую культурную дзейнасць і тут, збіраў моладзь, развучваў з імі беларускія народныя песні, навучаў любові і пашане да свайго роднага. Ягонай гаспадыняй была В. Гайдзелевічыха — сваячка ксяндза Стэфановіча, з якой ён тут пазнаёміўся і з якой у штодзённасці карыстаўся выключна беларускай мовай. Пасля таго як у Гелчын прыехаў настаяцель паляк, кс. д-р Язэп Рэшэць у канцы 1931 г. быў пераведзены ў Даўнары.

Любоў да беларускай культуры, народных песняў, музыкі, гульняў і абычаяў ксёндз д-р Язэп Рэшэць развіваў і ў сваёй парафіі ў Даўнарах каля Граева, у якой з прыхаджанамі размаўляў таксама па-беларуску. За ўсё гэта любілі яго вернікі, за ягоную прастату, гуманнасць, высокую духоўную культуру. Ці не тут узніклі ягоныя малавядомыя сёння п'есы, якія ставіліся самадзейнай групай патрыятычнай даўнароўскай беларускай моладзі: „Першыя ластаўкі" (1931) і „Зорка-Ідэя" (1933), выдадзеныя затым пад псеўданімам Я. Рушчанец у Вільні?...

У Даўнарах айцец д-р Язэп Рэшэць працуе таксама над жыціямі святых, якія сістэматычна друкаваліся ў „Хрысціянскай думцы", а ў 1937 г. былі выдадзеныя асобнай кніжкай у Львове-Вільні пад загалоўкам „Святыя". У 1933 г. кс. Язэп Рэшэць аднаўляе парафіяльны касцёл у Даўнарах, выконвае функцыі мясцовага дзекана, абслугоўвае пагранічныя польскія аддзелы ў раёне Асаўца (6 кіламетраў ад Гонязі — Ганёндза).

У 1935 г. кс. д-ра Язэпа Рэшэця спрабуе наведаць у Даўнарах кс. д-р Ян Тарасэвіч са Злучаных Штатаў Амерыкі. Тадышняя паліцыя, аднак, перашкаджае ў гэтым, выклікаючы а. Рэшэця ў Беласток, а кс. д-ра Яна Тарасэвіча, пасля шыканаў (акрамя паліцыі таксама і вышэйшых адміністрацыйных уладаў) і 8-мідзённага побыту, высылаючы з Польшчы ў Амерыку.

У той час прыхільна да беларускага духавенства ставіўся манастыр бенедыктынцаў у мясцовасці Лаел каля Чыкага, які меркаваў стварыць цэлую беларускую місійную групу з мэтай дзейнасці на Беларусі. Перспектыва ўздыму гэтакім чынам і нацыянальна-культурнага руху сярод беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі прымушае яго 25 снежня 1936 г. паступіць у гэты манастыр. Восенню 1937 г. кс. д-ра Язэпа Рэшэця асабіста наведвае ў Даўнарах абат Пракоп з Лаела, які затым хутка афармляе яму дакументы на выезд у Амерыку. Між тым кс. Рэшэць не спыняе культурна-асветнай і рэлігійнай дзейнасці на беларускіх землях былой Заходняй Беларусі. У 1937 г. уваходзіць ён у склад рэдакцыйнай калегіі „Хрысціянскай думкі", рыхтуе новыя публікацыі ды ўрэшце 27 сакавіка 1938 г. пакідае родны край і выязджае ў Злучаныя Штаты Амерыкі.

У Амерыцы кс. д-р Язэп Рэшэць сутыкаецца з новымі цяжкасцямі. На нейкі час замыкаецца ён у манастырскай келлі ў Бенедыктынскім навіцыяце. Навіцыят заканчвае 15 жніўня 1939 г., прымаючы пры прафесіі законнае (манашскае) імя Атаназ.

Пачатак 1 верасня 1939 г. II сусветнай вайны расстройвае планы не толькі кс. д-ра Язэпа Рэшэця, але і ўсей лаелскай беларускай групы, у якую ўваходзілі: а. Ян Тарасэвіч, а. Атаназ Рэшэць, а. Уладзімір Тарасэвіч і Ян Навагародзкі. Вайна спыняе магчымасці сцягнуць з Лідчыны 16 юнакоў




**( Пачатак у 11 нумары )**

Частка II

Гісторыя пакажа, ці Гарбачоў упішацца ў яе як ліквідатар рускай імперыі і аднавіцель нямецкай імперыі, ці не.

Хісткасць і бесхарактарнасць Гарбачова паразіла мяне пасля жнівеньскага путча. Вярнуўшыся з Сочы і сыйшоўшы з самалёта, заявіў ён, што ўдзел у путчы некаторых дзеячоў з КПСС ў ніякім выпадку не абцяжвае партыі, якая і ў далейшым будзе адыгрываць канструктыўную ролю ў жыцці СССР, а назаўтра аб'явіў роспуск КПСС. А чаму яно так сталася? Таму, што Ельцын, праўдападобна, заявіў Гарбачову: або распускай КПСС і астанешся прэзідэнтам, або не распускай і не будзеш прэзідэнтам. І Гарбачоў, болей кахаючы сваю прэзідэнтуру, чым сваю партыю, распусціў яе. Выратаваў сябе на коратка, не меней чым паўгода. Ельцын, Шушкевіч і Краўчук пастанавілі ў Белавежскай пушчы распусціць СССР, не запрашаючы на пасяджэнне прэзідэнта краіны Гарбачова і не пытаючы яго, што ён аб гэтым усім думае. Ці ж гэта не дзівота? Зразумела, што пры нармальнай сітуацыі такое дзеянне магло б быць акрэслена таксама путчам, але гнільныя працэсы ў СССР зайшлі так далёка, што можна ўжо было ў ім рабіць што хочаш. Зрэшты, я асабіста цешуся, што акт гэты быў аб'яўлены на беларускай зямлі і што ён абазначае ўзнікненне вольнай Беларусі.

Ну, а што датычыцца Ельцына? Палітык гэты зрабіў кар'еру на антыгарбачоўскіх дзеяннях. У сувязі з тым, што гаспадарчая палітыка Гарбачова пачала даваць фатальныя вынікі ўжо два-тры гады таму назад, пачаў у народзе гвалтоўна падаць яго аўтарытэт. Бываючы ў СССР, наслухаўся я як найгоршых ацэнак, якіх людзі не скупілі Гарбачову. Пачатковае захапленне Гарбачовым на працягу кароткага часу замянілася ў нянавісць да яго.

Палітык гэты паказаў сваю блізарукасць, якая праявілася ў тым, што зненавідзеў Ельцына, мабыць, і за крытыку сваёй жонкі Раісы. Чытаў я каля двух гадоў таму неапублікаваную прамову Ельцына, у часе якой звярнуўся ён да членаў Цэнтральнага камітэта КПСС з наступнымі словамі: „Избавьте меня, товарищи, от ежедневных звонков и нагоняев Раисы Михайловны. Мешает работать”.

Зразумела, што такая катэгарычнасць не магла падабацца ўсемагутнаму генеральнаму сакратару Цэнтральнага камітэта КПСС Гарбачову. На працягу вельмі кароткага часу пад націскам Гарбачова маскоўскі камітэт партыі адклікаў аднагалосна з функцыі першага сакратара Ельцына, нягледзячы на тое, што нядаўна паставіў яго на гэтую функцыю таксама аднагалосна. Вось ад гэтага моманту пачалася барацьба, якая закончылася поўнай перамогай Ельцына і поўным паражэннем Гарбачова. Ну і што далей? І вось з гэтым „што далей” найцяжэй. Аднак паспрабую тое-сёе вывяражыць. Ельцын, ездзячы па эканамічных развалінах, створаных Гарбачовым, усюды гаварыў народу аб тым, што народ ужо ведаў. Гаварыў, што ёсць дрэнна, але ёсць магчымасць, каб было добра. І гэта падабалася ўсім. На працягу кароткага часу Ельцын здабыў вялікую папулярнасць, выйшаў з партыі і быў выбраны прэзідэнтам Расіі. Некалькі месяцаў пазней зрабіў неразважны, па сутнасці, самагубны крок, заінспіраваў выбар сваёй асобы на пасаду прэм'ера Расіі. Была гэта вялікая памылка. Калі б так не сталася, меў бы магчымасць, так як гэта робіць Валэнса, звальваць віну за розныя промахі, беды, няўдачы на ўрад. Стаўшы прэм'ер-міністрам, Ельцын пазбавіўся такой магчымасці. За ўсе грахі віна падае на яго. Зрабіў Ельцын і яшчэ адно глупства — заявіў некалькі разоў публічна, што клопаты рускага народа скончацца на працягу шасці-васьмі месяцаў і пасля гэтага сітуацыя пачне папраўляцца. А гэта няпраўда. Сапраўдная бяда пачнецца ў Расіі праз шэсць-восем месяцаў. І гэта будзе абазначаць крах папулярнасці Ельцына. Рускі народ ёсць народам імпульсіўным. Ён вельмі хутка загараецца каханнем, але яшчэ хутчэй нянавісцю. І, несумненна, гэтым другім пачуццём у хуткім часе надзеліць ён Ельцына.

Мяркую я, што Гарбачоў быў хітрэйшым палітыкам, чым Ельцын, вось таму і патрапіў утрымацца на высокіх функцыях на працягу шасці гадоў. Ельцын, па-мойму, у ніякім выпадку не толькі шасці, але і паловы гэтага тэрміну не пратрымаецца. Думаю, што адыдзе ён больш бурліва і гвалтоўна, чым Гарбачоў.

Расію чакаюць вялікія, вялікія беды, у тракце якіх „паляцяць галовы” многіх палітыкаў. Да дэмакратычнай сістэмы Расія яшчэ не дарасла, а дыктатарскай сістэмай сёння ніякі еўрапейскі народ кіравацца ўжо не можа, у тым ліку і Расія. Вось у гэтым і заключаецца драма Расіі. Бяда ўся ў тым, што тое злое, што будзе рабіцца ў Расіі, рыкашэтам будзе біць і па Беларусі, якую чакаюць многагадовыя камплікацыі, перад усім гаспадарчага характару. А вядома, што бедны народ не можа быць шчаслівы, а мы будзем – бедныя. Вось гэта і ёсць прычынай таго, што часта не сплю па начах. І ніяк нічога разумнага прыдумаць не магу. Цешуся аднак, што беларускія клопаты будуць вырашаць самі беларусы.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



# У КЛУБЕ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

16.03.1992 у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку Клуб беларускай інтэлігенцыі арганізаваў сустрэчу з паслом у Сейм **Яўгенам Чыквіным**. Расказаў ён пра свой удзел у працах сеймавай Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў, а таксама пра тое, якімі праблемамі яна зараз займаецца. У дыскусіі закраналіся справы фінансавання арганізацый нацыянальных меншасцяў у Польшчы, падрыхтоўкі Закона аб нацыянальных меншасцях, стварэння камісіі па справах польска-беларускіх кантактаў.

Пад час сустрэчы дыскутавалі аб спрэчцы паміж прэзідэнтам Беластока Лехам Руткоўскім і архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім Савай наконт забеспячэння патрэб вернікаў Праваслаўнай царквы. Згодна закону, царква хоча ўзяць назад тыя ўчасткі, што размешчаны вакол сабора св. Мікалая. На іх плануецца стварыць рэлігійны і культурна-асветны праваслаўны цэнтр.

Перад сустрэчай адбыўся сход **Клуба беларускай інтэлігенцыі**. На ім была абмеркавана дагэтуляшняя дзейнасць КБІ. Ацэнка была пазітыўная. Былі выбраны ўлады клуба. Зараз Раду клуба ўзначальвае **Янка Зенюк** (старшыня). Намеснікам старшыні з'яўляецца **Мікалай Сычэўскі**. У састаў Рады клуба ўвайшлі: **Яўген Барода, Пётр Прышчэпка, Янка Целушэцкі, Яраслаў Харкевіч і Лідзія Савіцкая.**

Бліжэйшае мерапрыемства, якое арганізуе клуб — гэта сустрэча з Беластоцкім ваяводам у красавіку гэтага года.(яц)

******************************

для навукі ў ЗША на будучых беларускіх місіянераў. Усё гэта дрэнна ўплывае і на здароўе а. Атаназа. Крыху аджываў ён духова падчас місіяў у індзейскіх запаведніках. Адчуў сябе дрэнным манахам, жыў успамінамі аб Беларусі, сваёй працы ў Даўнарах.

Пасля авалодання англійскай мовай кс. д-р Язэп Рэшэць чытае лекцыі па тэалогіі ў духоўнай семінарыі пры манастыры ў Лаеле, пільна сочыць за вынікамі жудаснай вайны. Ад 1955 г., калі ў Чыкага арганізавалася беларуская група ўсходняга абраду пад кіраўніцтвам кс. д-ра Яна Тарасэвіча, а. Рэшэць часта пад'язджаў у гэты горад правіць літургію разам з а. Янам для беларусаў у капліцы сясцёр — язафінак на Оклей авэ. У эміграцыі Язэп Рэшэць друкаваўся ў „Беларускай царкве”, якая выходзіла ў Чыкага.

Пасля цяжкой хваробы і аперацыі ў жніўні 1957 г., а. Рэшэць памёр 15 лютага 1958 г. у манастыры ў Лаеле. Там жа і быў пахаваны на манастырскіх могілках 18.11.1958 г.

У гісторыі беларускай літаратуры кс. д-р Язэп Рэшэць увайшоў як аўтар дзвюх п'ес: „Першыя ластаўкі” (Вільня, 1931) і „Зорка-Ідэя” (Вільня, 1933), якія на фоне ўсёй літаратуры былой Заходняй Беларусі вылучаюцца не толькі праблескам нераскрытага да канца мастацкага таленту, але перш за ўсё глыбінёй нацыянальнай беларускай ідэйнасці. Не ў кожнага нават з вядомых заходнебеларускіх аўтараў можна сутыкнуцца непасрэдна з такой сілай эмацыянальнага ідэйнага зараду. Чытаючы іх, разумееш, чаму Язэп Рэшэць так перажываў у Амерыцы разлуку з Бацькаўшчынай, што прывяло яго да таго, што ў 1942 г. ён паў духам. Для такіх пісьменнікаў, як Язэп Рушчанец, Бацькаўшчына была ўсім сэнсам іх істоты, іх не толькі духоўнага, але і фізічнага існавання.

Героямі ягоных п'ес з'яўляюцца маладыя людзі, часта вучні сярэдніх школ, якія жывуць адной толькі ідэяй — ідэяй сваёй Бацькаўшчыны Беларусі. Чытаючы іх, ажно не верыцца, што ў міжваенны перыяд на тэрыторыі сённяшняй нашай Беласточчыны былі такія людзі ды яшчэ з беларускага каталіцкага асяроддзя. Шматлікія, аднак, факты абвяргаюць няраз і мой стэрэатыпны погляд на гэта. Такія факты могуць выключна суцяшаць, пацвярджаючы выказаную некалі ў прыватнай размове са мною думку д-ра Аляксея Каўкі з Масквы, што беларусы сапраўды не такія ўжо бедныя, як ім часта здаецца, тым не менш не можа не засмучаць тое, што пра Рушчаньца, цалкам у нас і на Беларусі забытага, мы можам пісаць толькі цяпер. Ды як слабое яшчэ беларускае літаратуразнаўства, калі дагэтуль не выяўлена шматлікіх літаратурных фактаў, а пра некаторых даваенных беларускіх пісьменнікаў не ўзніклі не толькі паасобныя манаграфіі, але нават звычайныя артыкулы.

Сёння мы нават не ведаем, дзе ўзніклі „Першыя ластаўкі”, хоць інтуіцыя падказвае, што на Беласточчыне. Не ведаем таксама, ці адлюстраваны ў іх аўтабіяграфічныя факты. Нельга выключыць, што было гэта нейкае інтраспектыўнае вяртанне аўтара ў гады свайго малалецтва ці юнацтва, калі вучыўся ён у тэхнікуме ў Беластоку, нягледзячы на тое, што адзін з галоўных герояў п'есы Костусь, якому ўсяго васемнаццаць гадоў, у творы вучыцца ў Вільні. Магчыма прататып Костуся, сам аўтар, сапраўды пачынаў ужо тады вучобу ў Віленскай духоўнай семінарыі, у якой, як вядома, існаваў моцны ідэйна беларускі гурток. Адзін з галоўных герояў п'есаў „Першыя ластаўкі” і „Зорка-Ідэя” Костусь — гэта канчаткова сфармаваны нацыянальна малады чалавек, свядомы свайго месца і ролі ў грамадстве. Калі іншых у творы „Першыя ластаўкі” агортваюць нейкія хістанні ці сумненні наконт будучыні свайго народа (напрыклад, ягоную сястру Адэлю ці дзевятнаццацігадовага вясковага хлопца Томку), дык адукаваны ў адрозненне ад іх Костусь — цалкам спелы нацыянальна чалавек. Тое ж трэба сказаць і пра семнаццацігадовую ідэйную змагарку за правы беларускага народа, вясковую дзяўчыну Стасю, якая, як відаць, адыгрывае цэнтральную ролю ў творы. Гэта ж яна, як дзеючая асоба, уступае ў канфлікт са сваімі сябрамі Адэляй і Томкам, супрацьстаўляючы іхняму бязвер'ю і сумненням сваю глыбокую беларускую ідэйнасць, акрыленую сапраўдным рамантызмам. Яна ж у канцы і перамагае іх ідэйна, беручы верх у кульмінацыі і развязцы сюжэта над іхнім светапоглядам. Адэля і Томка разам са Стасяй і Костусем становяцца гэтакім чынам гарачымі беларускімі патрыётамі, што не можа не цешыць Костусевага дзедку, які ў заключных словах у парыве натхнення гаворыць: „Бацькаўшчына наша дарагая, жыві і расцвітай нам на радасць, на пацеху! Беларусь мілая, сянняя, гледзячы на маладое пакаленне, я веру, я ручаюся, што ты не загінеш, не памрэш. Ты жыць будзеш вечна шчаслівая! Божа, памажы вам у працы!”.

Аднак, на жаль, не ўсе героі п'есы такой думкі, як Стася, Костусь ці ягоны дзедка. У аднаактавым, вельмі лаканічным на словы, драматычным творы даецца цэлая галерэя чалавечых вобразаў. Калі патрыятычна настроены школьнік Костусь у эмацыянальным парыве выказвае вернасць роднай зямлі ды свайму народу: „Дзедку, я не забудуся ніколі, што я з вёскі. Вёску я люблю, яе долю і нядолю я заўсёды нашу ў душы сваей”, дык таксама прыехаўшы на летнія канікулы ягоны аднавясковец Франук Казлоў, які замест памагаць у працы бацькам вылежваецца ў садочку, на вясковае асяроддзе ды сваю беларускасць рэагуе зусім інакш: „Znienawidziłem, — кажа, — prostotę”. Прагматычна, неаднакратна так, як і нашыя бацькі, падыходзіць да справы і маці Костуся Альжбета: „Мы дзякаваць Богу столькі лет пражылі, жаднай Беларусі ня зналі і без яе абходзіліся. Было добра. А то глянь што выдумоўваюць. Пайду, — кажа, — народ будзіць, скажу, каб ня выракаліcь мовы... Ліха спіць — то і добра, а ёй канешне заманулася, пайду будзіць, кажа”.

Чытаючы п'есу Язэпа Рушчаньца, якая зрабіла на мяне моцнае ўражанне, я здзіўляўся нязвыклай яе актуальнасці, хоць надрукавана яна была 60 гадоў таму назад! Драматычнае ж мастацкае слова Рушчаньца прамаўляла да мяне як быццам з сённяшніх пазіцый і рэалій! Розніца толькі ў тым, што падзеі ў творы Рушчаньца адбываюцца ў каталіцкім беларускім асяроддзі Беласточчыны тадышняй даваеннай пары, сёння жа з наступаючай дэнацыяналізацыяй беларусаў Беласточчыны маем ужо дачыненне і ў праваслаўным асяроддзі. Ды і ўсё ў гэтым асяроддзі тое ж: тая ж псіхалогія, характары, склад думкі, той жа „прагматызм”, неаднойчы драматычная ідэйная барацьба, канфлікт пакаленняў. Сёння дэнацыяналізацыя ахапіла ўжо не толькі звыш стотысячную масу беларусаў каталіцкага веравызнання, галоўным чынам Дуброўшчыны, Сакольшчыны ды часткова Беласточчыны, як былых паветаў, але штораз глыбей запускае свае карэнні і сярод праваслаўных беларусаў. Былы беларус, які як жа ненавідзіць сваю „prostote”, штораз часцей з'яўляецца праваслаўным... палякам!

Прыгадайма тады драматычнае і рамантычнае заадно слова ксяндза доктара Язэпа Рэшэця з падбеластоцкіх Рушчанаў, гарачага беларускага патрыёта, вучонага, паліглота і пісьменніка, аднаго з нешматлікіх заходнебеларускіх драматургаў, які ў гісторыю беларускай літаратуры ўвайшоў пад псеўданімам Язэп Рушчанец.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

# ЖЫЦЦЁВАЯ ПАСІЯ АЙЦА ЮРЫЯ ШУРБАКА

( Працяг са стар. 1 )

Я рыхтаваўся ў кансерваторыю, хадзіў на прыватныя лекцыі, іграў на скрыпцы. У наш ліцэй прыехаў „Artos" — эстрадны ансамбль Варшаўскай філармоніі. Мой настаўнік (спадар Канажэўскі, імя не памятаю) хацеў пахваліцца, як многа ўмеюць яго вучні. І ён папрасіў, каб я заспяваў. Я заспяваў „Pyk, pyk, pyk fajeczka" ды іншыя песні і, відаць, спадабаўся ім, паколькі артысты з гэтага калектыву абяцалі мне дапамагчы.

Я здаў матуральныя экзамены, запоўніў анкету і паслаў у кансерваторыю. А летам прыехаў у Бельск наш сённяшні мітрапаліт Васілій, тады епіскап Бельскі. Я і раней спяваў (з 9 класа) у хоры Міхайлаўскай царквы ў Бельску. Але ў той час мне сказалі прачытаць „Апостала". Пасля службы ўладыка Васілій запрасіў мяне да сябе і запрапанаваў, каб я паступіў у Духоўную семінарыю і Хрысціянскую багаслоўскую тэалагічную акадэмію ў Варшаве. Спрыяў гэтаму і мой законанастаўнік протаіерэй Канстанцін Байко.

Усе канікулы я сядзеў над багаслоўскімі прадметамі, а восенню здаў уступны экзамен у семінарыю і Акадэмію.

**— Калі пачалася Ваша прафесійная праца духоўніка?**

— У 1968 годзе я быў рукапаложаны ў сан дыякана і назначаны рэгентам царкоўнага хору. Праз год я рукапалажыўся ў сан свяшчэнніка і мяне назначылі настаяцелем у Пасынкі. І там прабыў толькі год, бо неўзабаве мітрапаліт Васілій узяў мяне ў царкву святога Іаана на Волі, дзе я быў вікарыем, а таксама рэгентам.

15 верасня 1971 года хор гэтай царквы зрабіў першы запіс царкоўнай музыкі ў якасці фона для спектакля „Рэвізор" Гогаля. Драматычны тэатр у Шчэціне ставіў гэту п'есу і вырашыў даць дзеянне менавіта на фоне царкоўнай музыкі.

У семдзесят другім годзе ў лютым адбыліся першыя канцэрты Ансамбля царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы.

**— Мінула якраз дваццацігоддзе яго існавання...**

— За гэты час мы далі больш 700 канцэртаў у Польшчы, 10 разоў выязджалі на гастролі за граніцу (Германія, Швейцарыя, Швецыя, Фінляндыя, Францыя, Бразілія, Украіна) — там далі каля 100 канцэртаў, запісалі таксама 9 доўгайграючых пласцінак у краіне і за мяжой...

Хор быў запісаны ў некалькіх радыё- і тэлеперадачах, браў удзел у розных фестывалях, запісваў музыку для фільмаў. Мне давялося нават выступіць побач з Омарам Шарыфам у фільме А. Вайды „Шатаў і дэманы" (паводле Дастаеўскага), рабіў хор музычную ілюстрацыю да фільма Тадэвуша Канвіцкага „Дзяды" і многіх іншых.

**— Айцец Юрый, Вы працавалі таксама ў Злучаных Штатах Амерыкі. Апошнім разам вярнуліся ў жніўні мінулага года. Дзе Вы там працавалі?**

— Я ў Амерыцы быў тры разы: тры гады, паўгода і два з палавінай года. Працаваў там з чатырма хорамі ў: Сакрамента і Сан-Францыска, што ў Каліфорніі, у Джаксан, што ў Нью-Джэрсі, і ў самім Нью-Йорку — з Рускай мужчынскай харавой капэлай. Хор гэты выконваў таксама свецкія песні. Менавіта з гэтым хорам я прыехаў у мінулым годзе ў Гайнаўку на Фестываль царкоўнай музыкі, дзе заняў ён другое месца. Апрача таго, было тады яшчэ 10 канцэртаў: у Варшаве — у царкве на Волі і ў семінарыйным касцёле на Кракаўскім прадмесці, у Беластоку, Заблудаве, Сямяцічах, Яблачыне, Белай-Падляшскай, Белавежы. Спявалі нават у новым доме культуры ў невялічкай вёсачцы, што ў двух кіламетрах ад Грабаркі, каб падтрымаць людзей на духу пасля пажару, у якім згарэла грабарская цэркаўка.

**— Такім чынам, Вы ізноў дома, са сваім хорам...**

— Я сумаваў па айчыне і маім хоры. Я не мог уявіць сабе, што хор будзе святкаваць дваццацігадовы юбілей без майго ўдзелу. Якраз цяпер адкрываем цыкл юбілейных канцэртаў.

**— Дзе яны адбудуцца?**

— Пачынаем ад „Всеночного бдения" Аляксандра Архангельскага (18 і 25 сакавіка) у евангелічным касцёле ў Варшаве. Тут мой хор спяваў больш ста разоў. У маі будзем два разы спяваць поўнасцю літургію Пятра Чайкоўскага. Пасля выступім на фестывалі ў Гайнаўцы. Збіраемся ў Ловіч на Дні музыкі барока, паедзем таксама ў Сталёвую Волю, восенню дамо канцэрт у Нацыянальнай філармоніі і ў Музеі Парчынскіх у Варшаўскай ратушы. На свае канцэрты запрашаем у якасці салістаў выдатных спевакоў Вялікага тэатра оперы і балета. На пераломе восені і зімы, магчыма, выедзем на гастролі ў Іспанію і Партугалію.

**— Ваша артыстычная дзейнасць вымагае самаахвярнай працы, немалых выдаткаў...**

— Я прадаў бацькоўскі дом у Бельску і дванаццаць гадоў утрымліваў хор сам, пакуль не падключылася Міністэрства культуры.

**— А жылі за што?**

— Я ж быў таксама выкладчыкам семінарыі, рэгентам мітрапалітальнага хору, вікарыем у саборы. Хор і духоўная музыка былі і застаюцца маёй жыццёвай пасіяй...

**— Айцец Юрый, вы слаўныя тым, што надаеце нярвз царкоўнай музыцы новы стыль інтэрпрэтацыі і прадстаўляеце яе таксама па-за праваслаўнымі храмамі...**

— На першым канцэрце Ансамбля царкоўнай музыкі, які мы далі ў варшаўскім евангелічным касцёле ў лютым 1972 года, сабралася некалькі тысяч чалавек. Нават найбольш патрабавальныя знаўцы музыкі былі ачараваны цудоўнай паліфоніяй, якая дагэтуль чуваць была толькі ў праваслаўных храмах або пакоілася ў старых нотных запісах.

**— І так да сёння?**

— І так да сёння.

**— Скажыце, калі ласка, якія Вашы ўражанні ад беларускага песеннага агляду?**

— Выдатныя! На такім песенным фестывалі я не быў гадоў дваццаць. Тое, што я пачуў і ўбачыў, дало мне душэўнае задавальненне. Тое, што я калісьці пачынаў, прынесла такія плады!

**Дзякуем сардэчна і жадаем Вам далейшых плёнаў на ніве царкоўнай музыкі!**

**Гутарыла**
**АДА ЧАЧУГА**
**Фота**
**Сяргея Грынявіцкага**

*********************************************

# ДЗЕЛЯ ДОЛАРАЎ

5.

Амерыканскае тэлебачанне ёсць з'ява пачварная. Калі папсаваўся мой тэлевізар, я адчуў усеахопную палёгку. Нарэшце пазбавіўся ад жудаснай боязі і ляскатання зубамі ў амерыканскую поўнач, калі з экрану вышчараюцца вампіры і вурдалакі з таго і гэтага свету — болей рэальныя, чымсьці мы з вамі, шаноўныя чытачы „Нівы". Рэальнасць фільмовай фікцыі і амерыканскага жыцця зліваюцца ў нейкую суцэльную фантасмагорыю — прынамсі ў тым варыянце, які падносяць сваім гледачам усе гэтыя станцыі і каналы, колькасць якіх перасягае мяжу чалавечай успрымальнасці і дыферэнцыяцыі. На абшары Нью-Йорка і наваколля чалавека глумяць дзесятак агульнадаступных каналаў і нейкія два-тры дзесяткі кабельных станцыяў (я так і не разабраўся, колькі іх дакладна). Рэч аднак жа самая асноўная — кожная станцыя змагаецца за гледача, без якога немагчымы ейны матэрыяльны быт. І яны стараюцца, Божа ты мой! Польскае тэлебачанне са сваімі дзвюма праграмамі — гэта ўсяго сярмяжная натуга прамывання мазгоў, хоць па-свойму яна і эфектыўная (не трэба надта старацца, бо чалавеку і так выбару не застаецца; сатэлітарнае тэлебачанне, з увагі на мізэрнае веданне грамадствам англійскай ці нямецкай мовы, мае мізэрныя індактрынацыйныя вынікі).

Свабода інфармацыі, загарантаваная канстытуцыяй ЗША, не з'яўляецца адно фармальным атрыбутам амерыканскай дэмакратыі — яна сапраўды не пакідае зашмат месца для прыватнасці і засцеражоных зонаў у амерыканскім жыцці. Датычыць гэта не толькі звычайнага грамадзяніна, які рэгулярна плаціць падаткі і хоча мець „сьвенты спокуй", але і вядучых постацяў палітычна-грамадскага значэння. Журналісты прэсы і тэлебачання безупынна разнюхваюць і калупаюць абалонку падзеяў, каб зачапіцца за нейкую шурпатасць або знайсці месца, з якога пахне нейкай нештадзённай прыправай. У канчатковым выніку ўсё зводзіцца да таго, каб прыцягнуць як найбольшую колькасць публікі да свае станцыі альбо газеты — кошт рэкламы ў іх залежыць ад таго, колькі народу яны індактрынуюць. І заробкі журналістаў таксама. Money, money, money...

Самым уражальным для мяне было адкрыццё, што сродкі масавага пераказу ў ЗША з'яўляюцца, так бы мовіць, надзвычайна амерыка-цэнтрычнымі. Колькасць часу, які прысвячаецца праблемам унутранага грамадска-палітычнага жыцця, ніякім чынам не суадносіцца з навыкамі польскіх сродкаў масавай інфармацыі. Усе гэтыя анекдатычныя апініі наконт амерыканцаў, якія не надта разбіраюцца ў еўрапейскай геаграфіі, мяркуючы па інфармацыйнай практыцы тут, могуць заключаць у сабе і зерне рацыянальнага. У замежным інфармацыйным сэрвісе рэгулярна ўсплывае справа ізраільска-арабскага канфлікту (ужо добрых гадоў сорак, калі ЗША ангажаваліся па яўрэйскім баку ў гэтай мілітарна-палітычнай спрэчцы) і час-часам посткамуністычнае рэчаіснасць у Садружнасці Незалежных Дзяржаваў (сузіраная, усё ж такі, праз маскоўскія акуляры). І гэта, практычна, усё. Іншыя замежныя тэмы паяўляюцца адно тады, калі прэзідэнт або сакратар Дэпартамента Стану выбіраюцца ў замежнае падарожжа. Няшмат, як на наш усходнееўрапейскі густ, выхаваны дзесяткамі гадоў вячэрняга выдання навінаў, калі мы сядалі перад тэлевізарам і перш за ўсё чакалі адказу на пытанне — а што там у нас у В'етнаме? — а не трывіяльнага — а што там у нас на паліцах у краме?

Пагоня за сенсацыяй, ліхаманкавая рупнасць апярэдзіць канкурэнцыю, схапіць нешта з падзей, пакуль яны яшчэ не закончыліся, даючы публіцы ілюзорнае адчуванне ўдзельніцтва ў чымсьці адрозным ад шэрай будзёншчыны амерыканскага дабрабыту — усё гэтае ўваходзіць у журналісцкі лемантар, калі можна так назваць аксіёмы амерыканскай журналістыкі. Яно для наведніка з усходняе часткі свету глядзіцца жах як дзіка, але пасля нейкага часу прыходзіць у галаву, так бы мовіць, „бальшавіцкая рацыяналізацыя" усяго гэтага гармідару: гэтыя амерыканцы настолькі атупелі ад праяваў цывілізацыйнай празмернасці, што абы-чым ім не страпянеш. Таму падаваць іх шторая новыя жахі і кур'ёзы. Ну й добра. У мяне, як я ўжо

# ЦІ ГІМН БЕЛАРУСКАГА ПАТРЫЯТЫЗМУ НАРАДЗІЎСЯ Ў ДАШАХ?

Галасістыя жанчыны з Дашоў заварожваюць на ўсіх аглядах беларускай песні. Як мілагучнасцю і зладжанасцю, так і сваім рэпертуарам.У іх выкананні гучаць, перш за ўсё, старыя мясцовыя песні — наш багаты падляшска-палескі фальклор.

Прапанову Юркі Ляшчынскага з Беластоцкага радыё паехаць у Дашы на рэпетыцыю калектыву „Каліна", прыняў я з энтузіязмам. Юрка хацеў запісаць іхнія песні для праграмы „Пад знакам Пагоні", раней быў ужо дамовіўся са спявачкамі. Я паехаў больш дзеля кампаніі, чымсьці з журналісцкага абавязку, тым не менш, думаю сабе, напішу некалькі слоў пра гэтую паездку, бо яна вартая таго.

Пакуль з Беластока дабраліся мы ў тыя Дашы, аж за Кляшчэлі, добра ўжо змеркласся. Крыху давялося пачакаць яшчэ,пакуль хор збярэцца. А паколькі на двары свістаў пранізлівы лютаўскі вецер, гаспадыні, баючыся за нашае здароўе, узяліся насамперш частаваць нас гарачай „гарбаткай". Але не так тая „гарбатка" разагрэла нашы скалелыя целы, як цудоўныя родныя песні, што прагучалі гэтага вечара ў тамашнім клубе-святліцы.

Жанчыны з Дашоў кажуць, што спявалі ўсё сваё жыццё, ад маленства, бо ці ж калісьці так сумна на вёсцы было, як цяпер? Але пачатак свайму калектыву вызначаюць на 1978 год. Тады пачалі арганізавацца, ездзіць на агляды беларускай песні. З агляду ніколі не вярнуліся без узнагароды.

У 1988 годзе ўрачыста адзначалі 10-годдзе свайго калектыву. Прыехалі ўлады Кляшчэлеўскай гміны, музычны ансамбль „Аўэрс" з Чаромхі, мужчынскі актэт з Гайнаўкі і шмат іншых гасцей — усяго 72 асобы. Тады менавіта і назваліся „Каліна". Хроснымі бацькамі „Каліны" сталі: начальнік гміны Аляксандр Сяліцкі і кіраўнік ГС Ніна Патэльская. Як то кажуць — родных бацькоў чалавек сабе не выбірае, але хросных так, ды абавязкова багатых!

Кіраўніком калектыву з'яўляецца Валянціна Міцэвіч. Спяваюць у ім: Соф'я Кердалевіч, Ніна Міцэвіч, Ядвіга Пташынская, Надзея Рошчанка, Марыя Рошчанка, Еўдакія Маркевіч. У „Каліне" спяваюць і мужчыны (я іх ніколі не бачыў, давялося паверыць на слова): Яраслаў Місяюк і Міхал Насковіч. Раней быў і трэці, Крыштафор Беляшко — музыкант з Кляшчэляў, але апошнім часам нешта не наведваецца.

Харысткі прасілі дапамагчы ім знайсці новага музыканта, сказаць па радыё, напісаць у „Ніве". Можа, хтосьці адгукнецца на просьбу: патрэбны музыкант для калектыву „Каліна" з Дашоў! Жыццё ў такога музыканта будзе цікавае і вясёлае — працаваць будзе з сімпатычнымі, вясёлымі спявачкамі, прадбачваецца многа выездаў. Да гэтай пары „Каліна" штогод ездзіла на агляды беларускай песні, пабывала ў Саноку, Вэнгажэве, Казімежы над Віслаю, не лічачы ўжо выступленняў у блізкіх Кляшчэлях ці Сямяцічах. Выязджалі таксама за мяжу, у Менск, у Луцк. І да іх прыязджалі з рэвізітам спевакі з Беларусі і з Украіны.



*На аглядзе „Беларуская песня' 92" у Беластоцкай філармоніі.* **Фота С.Грынявіцкага.**

У Дашах пачуў я яшчэ адну версію наконт паходжання песні „Дзе бы ты не пасяліўся". Гэтая песня, якая сталася гімнам беларускага патрыятызму на Беласточчыне, якая заклікае не забываць роднай мовы, роднай хаты, ведаць і памятаць, „што ты беларус" — паводле жанчын з Дашоў — выйшла якраз з іхняе вёскі. Я нават быў паспорыў крыху, заступіўся за родныя мне Тыневічы, бо ў выкананні маіх зямлячак песня гэтая набыла найбольшую папулярнасць, але калектыў „Каліна" ў сваёй праўдзе пераканаены — песня нарадзілася ў іх. Калі і як, невядома, але што ў Дашах, гэта напэўна, гавораць мне там. Толькі потым пачалі спяваць яе Арэшкава і „Тыневічанкі".



*На рэпетыцыі ў дашоўскай святліцы.* **Фота М. Ваўранюка.**

Мне, як госцю, больш спрачацца нельга было, не выпадала таксама голасна сумнявацца. Ды і ці сапраўды так важная справа, хто і дзе стварыў гэтую песню? Ці не больш істотнае тое, што спяваецца яна па ўсёй Беласточчыне, стаўшы ўжо даўно народнай?

І самае галоўнае, бадай, што ёсць такія самаахвярныя жанчыны, як у Дашах, якія ў сваёй песні зберагаюць нашу духоўную культуру, узбагачаюць і ўпрыгожваюць нашае жыццё.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

****************************************

адзначыў, міласэрна папсаваўся тэлевізар.

У кастрычніку мінулага года, калі я прыехаў у Нью-Йорк, якраз заканчвалася важданіна з назначэннем галоўнага суддзі ЗША — адной з найзначнейшых пасадаў у амерыканскай адміністрацыі. І без скандальнага прысмаку, які гэтаму спадарожнічаў, намінацыя выклікала шырокае зацікаўленне — прэзідэнт Буш назначыў суддзёй Галоўнага суда ЗША чорнаскурага юрыста. Але перцу ў справу падсыпала нейкая Аніта, якая калісьці працавала разам з кандыдатам: яна заявіла, што кандыдат нягодны свае пасады, бо яго ная маральнасць падлягае сумненню — некалькі гадоў запар ён рабіў ёй недапушчальныя сексуальныя прапановы і ўвогуле чапляўся да яе са сваімі сексуальнымі падтэкстамі (ці, можа, падсвядомымі ўтрапеннямі), выкарыстоўваючы кіраўнічую пасаду. Спецыяльная камісія амерыканскага Сената публічна (гэта значыць, у прысутнасці тэлебачання) расследавала гэты скандал, дапытваючы і Аніту, і ейнага апрычніка. Суддзю апраўдалі, а Аніта з экрану, спрычыніўшы не такія ўжо малыя віры ў сродках масавай публікацыі і ў жаночым асяроддзі — яшчэ месяцы два пасля таго каласальнага расследавання газеты і экраны поўніліся прызнаннямі цэлага легіёну жанчын, якіх, паводле іхніх словаў, таксама сексуальна турбавалі іхнія шэфы (sexual harassment — гэтак на нялюдскай мове амерыканскай юрыстыкі называецца падобнае злачынства). Як кажуць, народ меў што глядзець і чытаць. А жартаўнікі пры нагодзе не прапусцілі сенатару Тэду Кэнедзі, які быў у той адмысловай камісіі — ягонае прыватнае жыццё заўсёды было аб'ектам зацікаўлення журналістаў з увагі на схільнасць да „эксцэсаў з жанчынамі не заўсёды па-цвярозаму". Маўляў, вунь наш сенатар-playboy дбае пра амерыканскую маральнасць.

Пасля гэтага на экраны палезла наступная скандальная справа — якраз пляменніку сенатара Т. Кэнедзі адна жанчына зрабіла судовую справу за гвалт, які паводле ейнага абвінавачання, адбыўся на дачы сенатара. Увесь судовы працэс быў цалкам трансляваны адным кабельным каналам тэлебачання, Суд таго хлопца апраўдаў, бо сведкаў пры ўсім тым не было, а абодва бакі — абвінавачанне і абарона — гучалі аднолькава пераканаўча. Прытым, абвінавачаны паводзіў сябе ў часе справы надзвычай карэктна і рабіў даволі сімпатычнае ўражанне сваім вонкавым выглядам (твар абвінавачваючай аўтары транслюцы увесь час закрывалі электронны плямай).

Потым паліцыя схапіла аднаго вампіра-канібала. Шматкратны забойца (serial killer) — так іх называюць. На працягу пару гадоў забіў чатырнаццаць маладых хлапцоў, завабіўшы іх у свой дом і адурманіўшы наркотыкамі. А потым браў ці то сякеру, ці то электрычную пілу і разбіраў свежаніну. І калі адбяліў косці ў пральнай машыне, а мяса пахаваў у маразільнік, то... Не, мусіць даволі. У судзе прыкідваўся псіхічна хворым. Псіхіятры гэтага не пацвердзілі, і суд яго засудзіў. Пару тыдняў перад гэтай справай я глядзеў недзе па поўначы фільм пра нейкага такога аднаго — валасы станавіліся дыбам, але чалавек супакойваў сябе думкай, што ўсё гэта фікцыя, накручаная дзеля долараў. А тут на табе...

Потым была яшчэ адна справа, якая скаланула амерыканцаў. На чорнаскурага ідала Амерыкі, чэмпіёна суперцяжкай вагі Майка Тайсана, адна чэмпіёнка канкурсу прыгажуняў падала ў суд за гвалт. Усе думалі, што справа закончыцца больш-менш так, як з тым сенатаравым пляменнікам — ніхто не бачыў, няма доказаў, апраўданне. Але ж не. Гэты Майк сам сабе вінаваты — паводзіў сябе ў судзе па-грубіянску (каб не сказаць, пахамску), ужываў даволі вульгарную мову і толькі ўпэўніў суддзю, што так яно было, як распавяла 19-гадовая Дэзірэ (этымалагічна гэтае імя выводзіцца ад слова „пажадлівасць"!). Засудзілі яго, фраера, які думаў, што бляск і слава чэмпіёна свету ставяць вышэй закону.

Потым мой тэлевізар ляснуў, і зрабілася крыху спакайней на душы. Перад маім домам спалілі ўначы некалькі самаходаў, нехта паспрабаваў узламацца ў маю кватэру, пашчапаўшы дзверы нейкім долатам, але так наогул я стаў чытаць газеты. New York Times паінфармаваў мяне апошнім часам, што ў Тэхасе за гвалт засудзілі аднаго на пажыццёвую турму. Ён папрасіў, каб гэты прысуд замянілі яму кастрацыяй. Суд задаволіў ягоную просьбу... OK, America!

**ЯН МАКСІМЮК**

## АБ'ЯВА

Беларускае таварыства на культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом „Радзіма" прапануе на працу ў Польшчу будаўнікоў і рабочых іншых спецыяльнасцяў. Дэталёвыя інфармацыі – Беласток, тэл. 435118, Менск, тэл. 347060 і 331515.

# ШТО З ЭКСПАНАТАМІ Ў БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ?

Беларускі этнаграфічны музей зноў, як у шасцідзесятыя гады, становіцца рэчаіснасцю і выклікае не меншыя эмоцыі сярод актыву БГКТ, асабліва гайнаўчан, на тэрыторыі якіх ён будуецца.

Пабудовай музея жыве ўсё шырэйшы круг насельніцтва і чым хутчэй будуць відаць яе эфекты, тым яна будзе мець больш сімпатыкаў і ахвяравальнікаў.

Грамадскі беларускі музей у Белавежы існаваў ад 12 сакавіка 1966 года. На плошчы звыш 100 кв. метраў было размешчана 550 экспанатаў, сярод іх былі саха, драўляныя плугі, некалькі тыпаў барон, драўляны воз, ярмо, жорны, ступа, кадаўбцы, капанькі, лыжкі, калясніцкая майстэрня, такарня, ганчарныя вырабы, ляда, церніца, шчоткі, калаўроткі, вырабы з саломы, кросны, шматлікія вырабы ткацтва і вышыўкі. Рэшта экспанатаў з увагі на недахоп плошчы захоўвалася на складзе.

У 1966 годзе музей наведала 6 тысяч турыстаў, у 1968 — 8 тысяч, у 1970 — 14,6 тыс. і ў 1971 — 11,6 тыс. чалавек.

Здавалася, што маленькі музей разрасцецца з часам у сапраўдную навукова-асветную ўстанову. Але ў сямідзесятых гадах сталася інакш. БГКТ не атрымала сродкаў на ўтрыманне музея, а гаспадар будынка патрабаваў вызваліць памяшканне.

Паколькі экспанаты не былі адпаведна кансерваваны, яны нішчэлі. Зімою музей быў закрыты. У гэтую пару года ў Белавежу наведваецца значна менш турыстаў, чым улетку. Апрача таго, памяшканні музея не аграваліся.

У сувязі з вынікшымі цяжкасцямі Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ пастанавіў перадказаць экспанаты, дзеля іх кансервацыі і перахоўвання Акруговаму музею ў Беластоку. У ажыццяўленні пастановы Прэзідыума ГП многа дапамог тадышні віцэ-ваявода Зянон Сьвітай.

І так у красавіку 1973 года Прэзідыум і Акруговы музей стварылі супольную камісію перадачы-прыняцця экспанатаў, якая 31 мая 1973 года перадала Акруговаму музею 987 экспанатаў. Аб музеі стала ціха. Ваяводскі кансерватар помнікаў старыны перадаў экспанаты музеям у Цеханоўцы і ў Белавежы (апошні раней ужо прасіў іх пазычыць).

У праграмнай дэкларацыі Беларускага грамадска-культурнага таварыства, апублікаванай у „Беларускім календары на 1992 год", ёсць такі запіс:

„Сыходзячы з пазіцыі, што ніякі народ, а тым больш нацыянальная меншасць, не зможа ўфармаваць сваёй будучыні без знаёмства мінулага, Таварыства будзе прадаўжаць будову Беларускага музея ў Гайнаўцы, каб на працягу найбліжэйшых гадоў зрабіць даступнымі цэлай краіне, а таксама гасцям з-за мяжы дасягненні ў галіне беларускай матэрыяльнай культуры. Распачне старанні, каб вярнуць экспанаты, якія апынуліся ў музеі ў Цеханоўцы".

І вось гэтыя старанні, каб вярнуць экспанаты, пачаліся. Бо вядома ж, што перадказаныя будаўнікамі памяшканні трэба будзе паступова напаўняць зместам.

27 студзеня бягучага года дэлегацыя ад імя Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў саставе: Канстанцін Майсеня (старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы), Уладзімір Юзвюк (старшыня Ваяводскай рэвізійнай камісіі БГКТ) і Ян Сычэўскі (намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ) сустрэлася з дырэктарам Акруговага музея ў Беластоку Анджэем Ляхоўскім у справе звароту музейных — 627 — экспанатаў, перададзеных 11 лістапада 1974 года беластоцкаму Акруговаму музею з Рэгіянальнага грамадскага музея ў Белавежы. Дырэктар А. Ляхоўскі паінфармаваў, што „белавежскія" экспанаты знаходзяцца ў Музеі сельскай гаспадаркі імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы. Частка экспазіцыі — больш двухсот экспанатаў — перахоўваецца ў Белавежскім нацыянальным парку. Ён паабяцаў даць адказ адносна звароту музейных каштоўнасцей, якія з'яўляюцца ўласнасцю БГКТ.

24 лютага гэтага года намеснік старшыні ГП Ян Сычэўскі зноў наведаў дырэктара беластоцкага Акруговага музея. Дырэктар ужо можа звярнуць тыя экспанаты, якія знаходзяцца ў Белавежскім нацыянальным парку. Яны ў яго ведамстве, бо на тэрыторы Беластоцкага ваяводства. У справе звароту помнікаў культуры з цеханавецкага музея параіў звярнуцца да ломжынскага ваяводы.

28 лютага г.г. Ян Сычэўскі выслаў ліст ваяводу ў Ломжы, а 4 сакавіка ломжынскі ваявода Ежы Бжэзінскі прыняў дэлегацыю БГКТ: Яна Сычэўскага і Канстанціна Майсеню, а таксама журналіста беларускіх перадач Польскага радыёвяшчання ў Беластоку Юрку Ляшчынскага. Ваявода паабяцаў зрабіць захады дзеля перадачы беларускіх экспанатаў у музей у Гайнаўцы.

А далей было так. Праз тыдзень, 11 сакавіка г.г. Галоўнае праўленне Таварыства ў Беластоку атрымала ксеракопію пісьма дырэктара Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы мгр Казімежа Ушынскага, якое ён выслаў ломжынскаму ваяводу. Чытаем у ім:

„(...) Biorąc pod uwagę obiektywną prawdę i uwzględniając interesy obydwu stron proponowaliśmy przedstawicielom Społecznego Komitetu Budowy Muzeum Białoruskiego w Hajnówce przekazanie maksymalnie wszystkiego, co nie zniszczy stałych ekspozycji Muzeum Rolniczego w Ciechanowcu oraz użyczenie w długotrwały depozyt rownież eksponatów zbieranych przez naszych pracowników na terenach uznawanych przez BTSK za środowisko białoruskie. Przy dobrej woli takie rozwiązanie sprawy byłoby ważnym czynnikiem integracji bogatej kultury dwóch narodowości: polskiej i białoruskiej".

Працяг будзе. Неўзабаве прадбачваецца візіт беларускай дэлегацыі ў Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# НАШЫ КАРАНІ

## XXXXI. СТАНАЎЛЕННЕ

Князь Трайдзень за гады свайго панавання (1270-1282) у Наваградку расшырыў і ўмацаваў знешне і ўнутрана Беларускую дзяржаву (Вялікае княства Літоўскае) настолькі, што яна пераможна пратрывала наступныя некалькі гадоў міжусобнай барацьбы і частых зменаў на вялікакняскім пасадзе. Каля 1284 г. Наваградкам і ўсёй Беларускай дзяржавай заўладаў князь полацкі Віцень. Ён „як і яго папярэднікі Войшалк і Трайдзень, умацоўваў адзінства дзяржавы, абапіраючыся на Наваградскае, Гарадзенскае, Полацкае і іншыя княствы", — сцвярджаецца ў Беларускай энцыклапедыі. Пад кіраўніцтвам Віценя Беларуская дзяржава не толькі адбівала націск з боку Прусіі і Інфлянтаў на беларускія і літоўскія землі крыжакоў, але і выдатна расшырыла сваю тэрыторыю. Наваградак аб'яднаў пад сваёй уладай значную частку беларускіх зямель.

Віцень — гэта княскае імя, на жаль, у хроніках і іншых дакументах не захавалася ягонае імя хроснае. Аднак, мяркуючы па ягоным радаводзе і дзейнасці, можна не сумнявацца, што Віцень быў праваслаўным. Яго дзед — гэта праваслаўны князь полацкі Давыд Расціслававіч, бацька — полацкі князь Гердзень (хроснае імя невядомае), родныя браты — праваслаўныя Воін і Васіль. Да самых блізкіх князю Віценю людзей належаў епіскап полацкі Якаў, які ў дакументах называў яго „сынам маім" духоўным. Несумненна, за падтрымкай архіерэя князь Віцень вёў сталую палітыку паслядоўнага змагання супраць крыжацка-каталіцкага націску на Беларусь і Літву і дзякуючы заклікам свяцецеля і ўсяго праваслаўнага духавенства на абарону роднай зямлі і веры паўставалі праваслаўныя вoі — таксама князі, баяры, як і просты люд. А каталіцка-крыжацкае імкненне зняволіць Беларускую дзяржаву ў тым часе дасягнула сваіх вяршыняў: за гады 1300-1315 крыжакі накіравалі на беларускія і літоўскія землі аж 20 захопніцкіх паходаў, прабіваліся нават да Наваградка. З асаблівай заядласцю нападалі на Гарадзенскую зямлю і яе сталіцу Гародню, лічачы яе варотамі ў Беларускую дзяржаву. Варта прыпомніць, што ў склад Гарадзенскай зямлі тады ўваходзіла паўночна-ўсходняя частка сённяшняй Беласточчыны і паўднёва-ўсходняя Сувальшчыны, і нашыя продкі разам з іншымі беларускімі воямі давалі адпор і ўласнымі целамі захінаалі родную зямлю ад ворагаў. Крыжакі ў плашчах з каталіцкім крыжам на плашчах ды з такім жа крыжам наперадзе атрадаў двойчы напалі на Гарадзеншчыну ў 1306 г., тройчы ў 1311 г. І нашыя прапрадзеды знайшлі ў сабе сілу, каб адбіць гэтыя ілжэхрысціянскія нашэсці.

Выдатным доказам дбайнасці князя Віценя аб стане духоўнага жыцця былі ягоныя настойлівыя захады ў Канстанцінопальскага патрыярха пра пастаўленне Беларускай дзяржаве асобнага мітрапаліта. Дакладна невядома, ці гэтыя старанні закончыліся прыбыццём у сталічны Наваградак блажэннейшага ўладыкі і заснаваннем тут, у велічным Свята-Барысаглебскім саборы, мітраполічай кафедры, бо адны гісторыкі пацвярджаюць гэта і акрэсліваюць устанаўленне Беларускай мітраполіі на 1291 год, другія сумняваюцца ў гэтым. Адно тут пэўнае: за часоў Віценя Беларускую дзяржаву насяляла настолькі вялікая колькасць праваслаўных, было ў ёй столькі праваслаўных парафіяў і епархій ды жылі яны такім актыўным духоўным жыццём, што неабходны быў для іх пастыр у асобе мітрапаліта.

Памёр князь Віцень у 1316 г., перадаўшы ўладу свайму сыну Гедыміну.

МІКОЛА ГАЙДУК

************************************************

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць па адрасу: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | |
|---|---|
| 3905. Віталь Луба (Беласток) | — 60.000 зл. |
| 3906. Сяргей і Тамара Тарасевіч (Белавежа) | — 20.000 зл. |
| 3907. Марыя Шпаковіч (Белавежа) | — 50.000 зл. |
| 3908. Уладзімір Юзвюк (Беласток) | — 50.000 зл. |
| 3909. Ніна і Аляксандр Баршчэўскія (Варшава) | — 200.000 зл. |
| 3910. Людміла Вайшковіч-Карпенюк (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 3911. Лявон Паплаўскі (Плёскі) | — 600.000 зл. |
| 3912. Міхась Каленік (ЗША) | — 1.100.000 зл. |
| 3913. Барыс, Яўгеній, Людміла, Яўгеній Матвяюкі (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 3914. Уладзімір, Галіна, Анна і Радаслаў Пацкевічы (Беласток) | — 50.000 зл. |
| 3915. Марыя і Яўгеній Гадуны (Беласток) | — 50.000 зл. |
| 3916. Інакенцій Сідарук (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 3917. Галена, Павел і Мікалай Бушко (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 3918. Івона і Васіль Давідзюкі (Гайнаўка) | — 5.000 зл. |
| 3919. Ян Кірылюк с. Аляксея (Махнатае) | — 10.000 зл. |
| 3920. Анатоль Цімашук с. Мікалая (Катоўка) | — 10.000 зл. |
| 3921. Вячаслаў Станкевіч (Нямеччына) | — 100 марак |
| 3922. Дары са скарбонкі ў Музеі | — 100 ам. дол. |
| 3923. Мікола Заморскі (ЗША) — грошы перададзены Аляксандрам Баршчэўскім | — 1000 ам.дол. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Пішуць школьнікі

### мары

убачыць скарбы:
як цвітуць кветкі
дрэвы і кусты
паслухаць:
як спявае салавей ноччу
як гудзе пчала ўдзень
і ў захад сонца
— як у мяне б'ецца сэрца

### кот

на печы муркае
на печы спіць
вусы як галінкі дрэў
вушы чуткія
толькі клікні
лашчыцца да ног
і мяўкае так
быццам казаў:
я восьтут, у чым справа?

### вецер

спявае ў дрэвах
прыкрытых белым пухам
напявае калыханкі звярам
уцішае ў зямлі
насенне кветак
шэпча яму пра вясну
сонца
зелень
і трэлі салаўіныя

### * * *

у зялёным лесе
— зялёныя дрэвы
у зялёных дрэвах
— песні зялёныя
а ў гэтых песнях
— зялёная любоў

**ЮСТЫНА КАРОЛЬКА,**

**III „ц" клас бельскай „тройкі"**

## Надвор'е і народныя прыкметы

**Доўгія** ледзяшы вісяць на стрэхах — доўгая зіма, позняя вясна.

**Калі** на дзень веснавога раўнадзенства, сустрэчы сонца і месяца, роўнасці дня і ночы (22 сакавіка), надвор'е прыгожае, роўнае, цёплае — астатнія дні вясны і ўсё лета таксама будуць роўныя, цёплыя, прыгожыя. А калі гэты дзень віхурны, дажджлівы, перападзісты — такія ж будуць астатнія дні вясны і летнія месяцы.

**Калі** мышы робяць гнёзды ў копах нізка, пры самай зямлі або зусім у барознах — вясна будзе сухая.

**Рана** прыляцелі гракі, жаўрукі і жоравы — да ранняй і цёплай вясны.



*Мішык з Рыбалаў.* **Фота М. Ваўранюка.**

## Хто жыве ў двары?

Першы прачынаецца наш пявун, чырвоны грабянец, чырвоная бародка. Крыламі махае, усіх падымае:

— Кукарэку! Кукарэку! Хопіць ляжаць на баку, недарэкі! Уставайце, сонца сустракайце!

Хто гэта такі?

А яму ў адказ вартаўнік кудлаты пад ганкам, вушы тарчма, хвост абаранкам:

— Гаў, гаў! Я не спаў! Хату вартаваў!

Хто гэта такі?

На лаўцы вусач прачнуўся, салодка пацягнуўся:

— Мяў, мяў! Рана падняў мяне, рана! Якраз прыснілася сажалка з адной смятаны!

Хто гэта такі?

А рагуля галаву падняла, супакойваць пачала:

— Му-у! Я гору твайму памагу! Пачастую малаком, пачакай, калі прыйдзе гаспадыня з вядром!

Хто гэта такая?

Выскачыў з хлява беленькі круглячок, замест носа — пятачок:

— Рох-рох! І я люблю малаком частавацца! А яшчэ люблю ў лужыне паваляцца!

Хто гэта такі?

Не паспеў ён у лужыну кінуцца, як чырванадзюбы шчыпач ляціць:

— Га-га-га! Гэта лужына мая! Прашу не чапаць, а то буду шчыпаць!

Хто гэта такі?

Можа б, і да сваркі справа дайшла, ды тут выкаціўся на двор трохколавы веласіпед. А на ім хлопчык вясёлы. Усім рады, нікога не крыўдзіць.

Хто такі?

Гэта я!

**Марат Баскін**



## Для самых маленькіх

Эдзі Агняцвет

### СКОРАГАВОРКІ

Я гуляў адзін ля горкі
І збіраў скорагаворкі.

ЦІ НЕ ЛЕПШАЯ
— ПЕРШАЯ?

Рагатун Рыгорка родам
З Рагачова горада.
Як захоча,
Зарагоча
Рагатлівым рогатам.

СЛЕДАМ БЯЖЫЦЬ ДРУГАЯ,
І ДРУГАЯ — НЕ БЛАГАЯ!

Піскляняты просяць проса,
Скачуць, босыя, па росах.
Фрося проса ім прыносіць,
Ажно косы Фросі ў просе.

ЯК ДА РЭЧКІ ПАДЫШОЎ, —
РАПТАМ ТРЭЦЮЮ ЗНАЙШОЎ:

На гародзе рос гарох,
А за рэчкай — грэчка.
Ох, ох, ох,
ды ох, ох, ох,
Наш стары казёл Цімох
На гародзе рваў гарох,
Грэчку рваў за рэчкай.

ВОСЬ ТАБЕ РАГАТУН РЫГОРКА,
ЧАЦВЁРТАЯ СКОРАГАВОРКА:

Ліна з Нілам ловяць лівень,
Але лівень —
Нелянівы:
То лятае па алеі,
То люляе ён лілеі.

Ліна кінулася ўлева,
Ніл за Лінай,
Лівень згінуў
За калінай,
Каля млына.



**Мікола Чарняўскі**

З сенцаў дзед прынёс
вярэньку,
а з вярэнькаю —
варэйку.
Пацікавіўся Валерка:
— Дзед, нашто табе
вярэнька?
Адказаў стары Валерку:
— Панясу я ў ёй
варэйку.
На кірмаш пайду ў Вярэйцы —
будуць рады там
варэйцы.



# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК І МІКІ-МАЎС

Дзяўчынка Веранічка вельмі любіць жаваць салодкія гумкі. Яны прадаюцца ў прыгожых каляровых абгортках з малюнкамі. Мышка збірала гэтыя абгорткі, аблізвала, а пасля разглядала. Асабліва падабаліся ёй фанцікі з Мікі-Маўсам, прыгожай замежнай мышкай. На адным малюнку Мікі-Маўс еў торт, на другім — марожанае, на трэцім — цукерку. Мяркуючы па малюнках, меў Мікі хату з выгодамі і нават аўтамашыну.

— Вось бы пазнаёміца з гэтым прыгажуном! — думала мышка. — Пасябраваць з ім, а пасля, можа, і жыць разам!

І Пік-Пік вырашыла напісаць Мікі-Маўсу, — каб прыехаў і забраў яе да сябе ў Амерыку.

Праз некалькі дзён пасля адпраўкі пісьма па тэлевізары пачалі паказваць амерыканскія мульцікі. І вось мышка пабачыла на экране жывога Мікі-Маўса.

— Вось малайчына! — узрадавалася яна. — Ужо прыехаў!

Калі тэлевізар выключылі, Мікі-Маўс знік. Мышка доўга чакала яго ў сваей норцы.

— Мабыць, з тэлевізара вылезці не зможа, — падумала Пік-Пік, пабегла ў залу і пастукала па тэлевізары: — Мікі! Выходзь, гэта я, Пік-Пік! — Але было ціха.

— Заснуў, — падумала мышка і стукнула мацней. Унутры нешта піснула.

— Ага, ты ўсё-ткі там! — узрадавалася мышка. — А ну, выходзь, я цябе бачыла! — але Мікі не выходзіў.

— Ну, я цябе ўсё-роўна дастану! — і мышка прынесла адвёртку. Шрубчыкі адвінчваліся няцяжка, і хутка ад тэлевізара адвалілася задняя покрыўка, пасля бакавыя панелі, пасля нейкія прыборчыкі, але Мікі-Маўса там не было. Стамілася мышка і пайшла спаць.

Раніцой тата, мама, Веранічка і Пепіта знайшлі замест тэлевізара кучу ламачча. Тата скручваў яго цэлы дзень, ледзь паспеў да пачатку любімых Веранічкіных мульцікаў.

Прачнулася мышка Пік-Пік ад знаёмага голасу, прыбегла ў залу — а на экране зноў Мікі-Маўс скача.

— Ну, чакай, я цябе выбаблю адтуль! — раззлавалася мышка. Узяла яна самыя смачныя цукеркі са сваіх прыпасаў, паклала іх перад тэлевізарам і схавалася пад канапу, падсачыць, як амерыканскі прыгажун вылезе з тэлевізара за беларускімі цукеркамі.

Чакала мышка, чакала, і заснула. А калі прачнулася, цукерак ужо не было.

— Ага, не вытрымаў, выпаўз! — зазначыла мышка.

На самай справе цукеркі прыбрала мама і занесла іх на кухню. А мышка вырашыла дзейнічаць рашуча. І калі вечарам на экране зноў з'явіўся Мікі-Маўс, мышка падбегла да тэлевізара і паспрабавала залезці ўнутр.

І тут яе ўдарыла токам!

Упала Пік-Пік на падлогу, і вочкі яе закаціліся. Спалохаліся мама, тата, Веранічка і Пепіта, пачалі лячыць мышку, ледзь вылечылі. Апрытомнелая мышка, расплюшчыла вочы.

— Ну, і ну! Мікі — гангстэр! Амерыканскі бандыт! Ледзь не забіў мяне! За што?! Няўжо я так яму не спадабалася?..

І мышка папялялася ў сваю норку, і ўсе фанцікі з Мікі-Маўсам выкінула ў сметніцу.

**Людміла Рублеўская**



*Пік–Пік і Пепіта. Малюнак Асі Нікіцюк.*

# СТАРАЖЫТНЫЯ ГАЛАЎНЫЯ УБОРЫ

Старажытныя галаўныя ўборы з'яўляліся састаўной часткай адзення, якое выконвала сацыяльную, этнічную і магічную функцыі. Найбольш раннія галаўныя ўборы на Беларусі вядомы з эпохі неаліту — скураныя ці футравыя шапачкі, упрыгожаныя бурштынавымі гузікамі. У раннім жалезным веку насілі вязаныя, суконныя ці скураныя шапачкі з металічнымі ўпрыгожаннямі, а галаўныя ўборы жыхароў Падняпроўя і Пасожжа нагадвалі скіфскія і сармацкія ўборы. Добра даследаваны галаўныя ўборы XI-XII стагоддзяў. Дзяўчаты насілі вянкі з бяросты ці лубу, абшытыя тканінай або скурай. Яны ўпрыгожваліся вышыўкай ніткамі, шклянымі пацеркамі, металічнымі бляшкамі. Жанчыны на сколатыя валасы надзявалі чанцы (шапачку, кіку), аснову якіх рабілі з бяросты ці лубу і абцягвалі тканінай ці скурай і расшывалі іх, як і дзявочыя вянкі. Да



галаўных убораў прымацоўваліся скроневыя ўпрыгожанні. Паверх вянкоў і чанцоў насілі намітку ці павой (убрус), якія выраблялiся з розных тканін (часцей за ўсё белага ці чырвонага колераў), яны ўпрыгожваліся вышыўкай пацеркамі, ніткамі, металічнымі бляшкамі. Гараджанкі насілі ачэлле з двух драўляных валікаў, абшытых тканінай, на якіх замацоўваліся да 20 металічных дужак. На павой зімой надзявалі шапкі, аздобленыя футрам. Мужчыны насілі суконныя ці лямцавыя каўпакі з нізкай паўкруглай ці конусападобнай вяршыняй, з акалышам, часта абшытым футрам.

**Л. Дучыц**

# КАРАБЕЛЬ ВЯСНЫ

Ніштo так не бударажыць чалавечую душу, як вясна. Кожны чалавек, не зважаючы на гады, хоча як мага бліжэй быць да вясны. Дарослыя і моладзь ідуць у поле, у лес, да ракі. Старым здаецца, быццам самае надзейнае месца для сустрэчы з вясной — цёплая прызба каля хаты. Дзятва ж тая, не ведаючы стомы, бегае за гаваркімі ручаямі, ганяецца па чорных праталінах за першымі стракатымі матылькамі, лезе на дрэвы і стрэхі паветак і пунь.

На ўзлессі невялічкі раўчук, які летам зарастае сакавітай лугавой травой. Нібы астравок ляжыць у раўчуку ўмерзлае ў лёд галлё. Гэта маё ўлюбёнае месца сустрэч з вясной. Узбярэшся на яго, быццам на тую мяккую пярыну, закладзеш рукі на галаву — і паплыў на хвалях вясны.

Унізе гулка пабульквае імклівая верхаводка. А ўверсе, быццам казачныя белыя лебедзі, па блакітным небе паволі праплываюць лёгкія кучавыя воблакі. А дзесьці там, аж над самымі гэтымі аблокамі, нязмоўклымі званочкамі звіняць жаваранкі. Іх стольki цяпер у небе спявае, што веснавое паветра дрыжыць ад птушыных галасоў.

На адталым беразе, пагойдваючы доўгімі хвастамі, жвава бегаюць белабокія пліскі. Весела папіскваюць, корпаючыся ля дупла ў старой алешыне над раўчуком, блакітныя папаўзні. Нагрэтае на сонцы галлё прыемна пахне салодкім бярозавікам і яшчэ нечым, такім дарагім і шчымлівым.

Угледзішся ўважліва ў аблокі і раптам здасца, што яны стаяць на месцы, а ты без ветразя і вёслаў плывеш і плывеш у караблі вясны па сіне - блакітным акіяне нябёс...

Хораша!

**Рыгор Ігнаценка**




*Мал. Ады Сяменюк*

# ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 225610, г.п. Мікашэвічы, вул. Першамайская, д. 90, кв. 4, **Літвіненка Таццяна** (6 клас, цікавіцца музыкай).

*

356523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Баррикадная, д. 22, кв. 3, **Андреева Галина** (6 клас).

*

346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Театральная, д. 38 б, кв. 14, **Попова Жанна** (11 гадоў).

*

346527, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная, д. 43, кв. 57, **Селиванов Евгений** (14 гадоў, бландзін з сінімі вачыма, цікавіцца аўтамадэлямі і фатаграфікай).

*

346527, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Текстильная, д. 43 кв. 57, **Селиванова Ирина** (17 гадоў, па гараскопу — Бык, любіць кнігі, кветкі, папугаяў, цікавіцца кравецтвам, умее добра гатаваць, цэніць у людзях вернасць і дабрыню).

*

220051, Беларусь, г. Менск, вул. Дзекабрыстаў, д. 6 а, кв. 7, **Кірыльчык Караліна** (вучыцца ў музычнай школе ў 4 класе).

## З ВУЧНЁЎСКІХ СШЫТКАЎ

„Вова з Сёмам пайшлі далей ад сяброў. У лесе ваўка ўбачылі, а тут ўжо недалёка станцыя была. Не страшна ім было таго ваўка, як страшна, што спознялся на цягнік."

*

„Найлепшы мой сябар — сабака Арэкс. Ён усё робіць і разумее як чалавек, толькі не гаворыць і есці не зварыць."

*

„Я люблю сваю бабулю, толькі шкада, што яна мае замала грошай, каб мне штодзень магчы шакалад купляць."

**Сабрала Ірэна Салавей**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

| | | |
|---|---|---|
| 12 | 18 | 4 |
| 9 | 126 | 8 |
| 6 | 16 | 21 |

*Знайдзі ў клетачках дзве такія лічбы, якія множаныя праз сябе дадуць вынік з кветкі.*

# ВЕРСІІ ✷ КУР'ЁЗЫ ✷ СЕНСАЦЫІ

### РАЗВЕДЧЫКІ-ЗДРАДНІКІ

У 1985 годзе англійская разведка тайна вывезла з СССР свайго агента Алега Гардзіеўскага, які выконваў абавязкі рэзідэнта КДБ у Лондане. У якіх абставінах дайшло да вярбоўкі Гардзіеўскага — невядома. У інтэрв'ю Гардзіеўскі заявіў, што свядома пайшоў на супрацоўніцтва з англійскай разведкай у 1974 годзе, калі яшчэ працаваў у савецкім пасольстве ў Даніі. Гардзіеўскі выдаў многіх савецкіх агентаў, а таксама перадаваў англічанам інфармацыю палітычнага і ваеннага характару...

Дык хопіць называць па прозвішчу савецкіх разведчыкаў-здраднікаў. Паводле дадзеных КДБ, пасля 1985 года арыштавалі 34 шпіёнаў. А колькі з іх асталося за мяжой!

Чаму яны здрадзілі сваёй айчыне?

Шматлікія з уцекачоў тлумачылі свой учынак тым, што немагчымым было для іх жыццё ва ўмовах несвабоды, ва ўмовах таталітарнай дыктатуры.

Адзін з савецкіх разведчыкаў-здраднікаў быў чалавекам рэлігійным. У сваіх публічных выступленнях і ў мемуарах Ляўчэнка ўспамінае, як перад камандзіроўкай у Японію ён пайшоў у царкву на ўскраіне Масквы, дзе ў думках развітаўся з радзімай.

Эвалюцыя Гардзіеўскага, паводле яго слоў, пачалася тады, калі адыйшоў Хрушчоў і пачалося закручванне гаек, і закончылася пасля падаўлення „пражскай вясны" і ўвядзення савецкіх войск у Чэхаславакію.

Несумненна, што ідэйны фактар адыгрываў важную ролю ў падштурхоўванні савецкіх функцыянераў да супрацоўніцтва з заходнімі спецслужбамі. Але былі і іншыя матывы, між іншым, і індывідуальныя моманты. Вось хаця б ахвота разбагацець у хуткім часе. Некаторыя вывозілі з гэтай мэтай дарагія прадметы з золата, іконы. Усё гэта прадавалі за долары. Яшчэ іншых звербавала ЦРУ.

Усе контрразведкі свету прафесіянальна граюць на струнах чалавечай душы. Агульнавядома, што вялікія грошы спакушваюць. Вядома не ад сёння, што ў заходніх краінах у хуткім часе можна запрацаваць на аўтамашыну, а ў былым Саюзе для таго, каб купіць сабе самаход, спатрэбілася ажно паўжыцця.

Варта дадаць, што пасля другой сусветнай вайны ЗША арганізавалі ЦРУ і велізарную тэхнічную службу для збірання інфармацый. На ўсё гэта патрацілі мільярды долараў. З таго часу ўзнік глабальны шпіянаж. Не аставаўся ззаду і былы СССР. Меў ён вялікую арганізацыю, вядучую шпіянаж практычна ва ўсіх дзяржавах.

Шпіянаж не знікне. Зараз, аднак, многае змянілася на лініі Усход—Захад. Паявіліся шанцы нават на... супрацоўніцтва. Шпіянаж не самае высокае дасягненне чалавецтва, ім не трэба ганарыцца, але гэта і — прыкрая неабходнасць.

Апрацаваў

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

***

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астронку! Прабач, што так дакучаю табе сваімі снамі. Але ў бядзе чалавек усюды ратунку шукае, тым больш, што да гэтай пары ўсе сны па чарзе спраўдзіліся, з якімі я да цябе звярталася. А вось што мне апошнім разам прыснілася. Стаім мы з мужам на нейкім прыпынку. Кудысьці маем ехаць, але куды і чым — не ведаю. І раптам я ўспомніла, што няма ў мяне білета. І кажу: няма білета, дык не паедзем. І тут ужо мы стаім каля нейкай гары. Гара гэта паступова ўзвышаецца, а на ёй дарога. Па той дарозе людзі радочкам ідуць. Нам на гэту гару таксама ўзбарацца трэба. Але трэба далекавата ісці, да пачатку гары, дзе яна пачынае ўзвышацца. І раптам я ўгледзела, што тут жа, з боку гары, дзе мы стаім, расчышчана ў снезе дарога і сходкі пароблены, каб можна было знізу аж наверх гары, на тую ж дарогу, дзе людзі ідуць, нам увайсці. Яшчэ дадам, што гэтая гара і ўсё кругом было ў белым, чыстым снезе.

**Кацярына**

Кацярына! А ўсё ж ізноў сны твае круцяцца вакол спраў здароўя. Тая вялікая гара абазначае, што будуць у вашай сям'і нейкія клопаты, праблемы. Можна меркаваць, што тыя сходы, якія вялі на гару, а вы іх убачылі, завядуць вас на тую гару — значыць, пераможаце цяжкасці. Тым больш, што ўсё навокал было белае ад снегу, а снег абазначае добрае здароўе або нейкі прыбытак.

**АСТРОН**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, я жыву ў горадзе ў блёках. Заўсёды каля маіх вокан праходзіў вельмі прыстойны мужчына. Быў высокі, прыгожа збудаваны, ну даслоўна Тарзан — смуглы, з доўгімі валасамі. Прыгажэйшага мужчыны навокал я не бачыла. Побач з ім заўсёды хадзіла дзяўчына, якая вельмі прыгожа апраналася, але не грашыла прыгажосцю. Мне марылася, каб пазнаёміцца з гэтым хлопцам. Я нават не ўяўляла сабе дзяўчыны, якая магла б пасаваць яму. Можна нават сказаць, што я закахалася ў яго завочна.

Аднойчы дзяўчаты зрабілі прыватку. Сабралася мнагавата народу. І раптам бачу, што прыйшоў той чалавек, які імпанаваў мне з вокан маёй кватэры. Я вельмі здзівілася, што ён адзін, без тае дзяўчыны, з якой заўсёды хадзіў разам. Папытала ў сяброў — кажуць, што яна яго кінула і звязалася з некім іншым. Хлопец быў маўклівы і самотны. Я падыйшла да яго і мы пачалі размаўляць.

Я была шакіравана, калі хлопец гэты адазваўся. Быў да такой ступені просты, што мяне заткнула. Не тое, што не ўмеў гаварыць прыгожа, гэта ўсё было б дробяззю. Але ж спосаб яго гаворкі, тэмы, якія ён прабаваў закранаць, былі ніякія, а нават прасцяцкія. Такое мне ніколі не здарылася. Такі прыгажун — і такая неспадзеўка!

І мне ўспомнілася, як гаварыў мне калісь знаёмы хлопец: „Прыгажосць дзяўчыны — гэта яшчэ не ўсё. Часамі хочацца ўцякаць, як толькі прыгажуня адкрые рот. Розум дзяўчыны, яе нутро — вось што найважнейшае!"

Толькі цяпер я поўнасцю зразумела сэнс гэтых слоў і зразумела, чаму адыйшла ад яго тая дзяўчына. Сэрцайка, ты ж усё ведаеш, скажы, ці часта такое здараецца і ці табе калісьці здарылася, што вельмі прыгожы чалавек здаўся брыдкім?

**Хрысціна**

Хрысціна! На першы погляд чалавека цягне да людзей прыгожых знешне. На даўжэйшы час унутранае харáство важнейшае. Да прыгажосці чалавек хутка прывыкае, зрэшты, як да ўсяго добрага, і перастае заўважаць яе. Розум, унутраная прыгажосць, яны патрэбныя цэлае жыццё. Часта гаворыцца, што вось , маўляў, сябруе з такой брыдкай дзяўчынай. А яна для яго — найцудоўнейшая ў свеце. Значыць, не выгляд тут найважнейшы, і твае адчуванні ў гэтым выпадку абсалютна не размінаюцца з маімі.

Розум, на жаль, абсалютна не ідзе ў пары са знешняй прыгажосцю. Несумненна, брыдкаму мужчыне лягчэй узбагачваць свае веды, бо вядома, што дзяўчаты да яго так не ліпнуць, дык і мае больш вольнага часу. Неяк прывыклі лічыць, што дзяўчына, калі прыгожанькая, дык дурненькая. А яна ж можа быць таксама разумнай, як і тая брыдчэйшая, але што мае менш вольнага часу праз тых хлопцаў, дык гэта таксама факт.

Каб чалавека пазнаць, трэба з ім сустракацца, гаварыць, звяртаць увагу на яго рэакцыі. Толькі тады будзеш ведаць, ці ён якраз той, якога ты прагнеш.

**СЭРЦАЙКА**

# ЦІ ЁСЦЬ НАМ ЧАГО ЎСТЫДАЦЦА?

Могліцы — адно з высокіх месц у Белавежы. Нашы дзяды ляжаць на ўзгорку ў лясочку, у пясочку, — як прынята ва ўсходніх славян.

На могліцы трэба хадзіць часцей. Чалавек становіцца спакайнейшы, лепшы. Але часам сум агортвае, калі так ходзіш сярод магілак і помнікаў (часта велізарных, бяздарных, непрыгожых), на якіх напісана не тое, што трэба. Напрыклад, майго дзядзьку, як той казаў, ад люлькі — і ў хаце, і на сяле — усе называлі Рыгор, а на помніку чытаеш Grzegorz Wierzbicki. А як жа харашэ было б — Рыгор Вярбіцкі.

Можна было б доўга спорыць: хто вінаваты, што Васілько стаў Базылім, чаму многа Вер стала Весямі, а Зін — Зэнкамі? Чаму дзеці ставяць яшчэ жывым сваім бацькам помнікі, на якіх прозвішчы напісаны не па-беларуску?

Хто ці што прымушае іх да гэтага? Ніхто і ніштó. Самі лезуць без мыла куды не трэба. У такім разе, дазвольце запытаць: ці мы зусім здурнелі?

Нашы дзяды раслі і жылі ў цяжкім трудзе і ў нядолі. Але былі людзьмі сур'ёзнымі, сталымі. Хавалі сваіх бацькоў, не перахрышчваючы іх на астатнюю дарогу, на апошняе месца. І там ляжаць з павагаю, не як клоўны. Перакanайцеся. На старых помніках усё напісана без перахрышчвання.

Гэта пра могліцы ў Белавежы. Але не лепш і ў другіх месцах. Была я ў Гайнаўцы, у Нараўцы, у Семяноўцы — тое ж самае.

Праз некалькі дзесяткаў гадоў прыезджы чалавек зойдзе на могліцы і скажа: беларусы не жылі тут ніколі.

Могліцы — гэта таксама наша гісторыя, якой нам не трэба ўстыдацца.

**ВЕРА**

*(Ганараp на музей)*



### ФРАНЦУЗСКІЯ КЛЁЦКІ

На 120 г мукі трэба ўзяць 3—4 лыжкі масла, 4 яйкі, зялёную пятрушку, соль па смаку.

Памыць яйкі, разбіць іх, аддзяліць жаўткі ад бялкоў. Масла расцерці з жаўткамі, дадаць прасеяную муку, пасечаную зеляніну пятрушкі, пасаліць. Лёгка перамяшаць са збітай пенай з бялкоў. Тады класці прадаўгаватыя клёцкі ў пасолены кіпецень, мачаючы перад гэтым лыжку ў ваду. Варыць на малым агні пад пакрыўкай. Калі клёцкі выплывуць наверх, адцадзіць іх, падаваць адразу ж да супоў альбо другога.

### ФРАНЦУЗСКІЯ КЛЁЦКІ З ПЯЧОНКАЙ

Трэба зрабіць цеста, як у папярэднім рэцэпце. Да яго дадаць 100 г цялячай ці птушынай пячонкі, соль па смаку, зеляніну пятрушкі.

Пячонку дробна пасячы разам з зялёнай пятрушкай. Падрыхтаваць цеста, як на французскія клёцкі, перамяшаць з пячонкай. Класці лыжкай прадаўгаватыя клёцкі ў пасолены кіпецень, кожны раз мачаючы лыжку ў ваду. Варыць на малым агні, накрыўшы. Адцэджваць клёцкі, калі яны ўсплывуць наверх. Падаваць да птушкі.

### ФРАНЦУЗСКІЯ КЛЁЦКІ З МАЗГАМІ

Цеста — як у першым рэцэпце. Да гэтага — 100 г мазгоў, соль па смаку.

Мазгі ачысціць ад плёнак, спаласнуць, палажыць у гарачую ваду, варыць 5 мінут, адцадзіць і працерці. Цеста падрыхтаваць паводле першага рэцэпту, перамяшаць з мазгамі. Класці лыжкай прадаўгаватыя клёцкі ў пасолены кіпецень, мачаючы кожны раз лыжку ў ваду. Накрыць клёцкі і варыць іх на малым агні. Калі выплывуць — падаваць адразу.

### ФРАНЦУЗСКІЯ КЛЁЦКІ З ГРЫБАМІ

Цеста робім, як у першым рэцэпце, дадаткова бярэм 50 г сушаных грыбоў, зялёную пятрушку.

Грыбы памыць, намачыць, зварыць і дробна пасячы разам з зелянінай пятрушкі. Цеста перамяшаць з грыбамі і далей рабіць клёцкі так, як у папярэдніх рэцэптах.

### ПАЎФРАНЦУЗСКІЯ КЛЁЦКІ

На 400 г мукі трэба ўзяць 5—6 лыжак масла ці маргарыну, 3 яйкі, няпоўную лыжку вады, соль па смаку.

Масла расцерці з яйкамі, дадаць прасеяную муку, дакладна вымясіць, каб увайшло ў яго як мага больш паветра. Можна таксама ўсе прадукты палажыць у міксер, уключыць на 30 секунд. Металёвай лыжкай класці прадаўгаватыя клёцкі ў кіпячую пасоленую ваду, варыць пад пакрыўкай, пакуль не выплывуць яны наверх. Звараныя клёцкі вымаць друшляковай лыжкай, абліць іх гарачай вадой, адцадзіць.

Падаваць у якасці дадатку да іншых страў або як самастойную страву з соусам.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ПАДРОБКА ПАД РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Трэба ў краме бываць часьцей,
каб здабыць на вячэру штосьці —
а да д'ябла ўсіх гасьцей,
хто пустымі ходзіць у госьці!

Не хадзіць цяпер па гасьцям —
больш Айчыну не праваронім!
А ўсялякім расейскім „Вестям"
вырвем гонар з пер'ем варонім!

Прагінаецца грунт як гонт.
Ціхне ворагаў брэх сабачы.
Беларускі Народны Фронт
скалашмаціў на бой Ушачы.

Нас круціла доля ўсяляк,
нас трымалі, як нэграў у труме...
... вось і сыніцца Зянон Пазьняк —
на парляманцкай нашай трыбуне!

Ї ўзьлятае сэрца да зор,
і назваць сябе не баюся —
гэта я, Барадулін Рыгор,
сын Рэспублікі Беларусі.

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**






*Мал. Ігара Варашкевіча.*

## ПАСТАРАЎСЯ...

Уздыхае цешча ў скрусе:
— Чую блізенька бяду.
Скора я памру ўжо, мусіць,
У зямельку адыду.
Ты б дамовіўся, зяцёчак,
Каб на могілках у нас
Лепшы мне знайшлі куточак...
Пастарайся ўжо
Хоць раз!

Зяць старую супакоіў
— Знаю з кім пагаварыць.
Месца знойдзецца такое,
Толькі трэба магарыч.

— О зяцёк, на клопат гэты
Можаш нават сотню ўзяць!
...Ноччу, добра падагрэты,
Прыблукаў з задання зяць.

— Дзе быў, з кім піў —
Не пытайся.
Пастараўся — млосна аж!
Ты ж на пятніцу збірайся:
Месца выбіў —
Сам хоць ляж!

**МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ**

## АНЕКДОТЫ

Спатыкаюцца сяброўкі і дзеляцца: хто і як правёў навагоднюю ноч?
— Ірына, дзе вы сустракалі Новы год?
— Ох, як заўсёды, у пасцелі...
— Цікава... І шмат было народу?

* * *

— Што вы, бабуся, прадаеце? — пытае ў старой жанчыны на базары малады чалавек.
— Лекавыя травы, сынку.
— А яны дапамагаюць?
— Яшчэ як. Дачцэ ўжо купіла цюленевае футра, а сыну збіраю на „малюха".

* * *

Тэлефонны званок жанчыны да псіхіятра:
— Доктар, мой муж уявіў, што ён конь: есць авёс, іржэ, а цяпер яшчэ брыкаецца.
— Вязіце яго да мяне, хутчэй.
— Дзякуй, зараз я яго асядлаю.

* * *

— Так далей працягвацца не можа, — гаворыць лекар пацыенту. — Як відаць, ваш дэвіз такі: „Віно, жанчына, скокі". Ад нечага вы павінны адмовіцца!
— Ну што ж, у такім разе я адмаўляюся ад скокаў.

* * *

— Мама, — звяртаецца дачка да маці, — папрасі тату, каб ён мне даў грошай на кішэнныя расходы.
— Папрасі сама. Неўзабаве ты выйдзеш замуж. Час ужо, каб пачала прывыкаць да самастойнасці.

* * *

— Тата, нежанатага мужчыну называюць жаніхом? — пытаецца малы Міхаська.
— Але.
— А як называюць жанатага?
— Ты яшчэ занадта малы, каб ведаць такія слоўцы!

* * *

— Маці звяртаецца да Андрэйкі, які не любіць малога брацікa Васілька:
— Прадам, відаць, Васілёчка...
— Не прадавай, мама, — просіць Андрэйка. — Пачакай, пакуль ён падрасце. Тады за яго больш дадуць.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

## ЗУСІМ ВЫПАДКОВА

Аднойчы восенню Ганна выпадкова зацяжарыла. Неяк тры месяцы таму назад яна пазнаёмілася з Міхасём, таксама выпадкова, у аўтобусе. Цяпер яна раздумвала: ці прымусіць Міхася ажаніцца з ёй, пакуль ён сам гэта прапануе. І тут ёй пашанцавала: Міхась пасварыўся са сваімі роднымі і прыйшоў жыць да яе. Аднаго разу яны пайшлі ў гастраном, а па дарозе выпадкова завіталі ў ЗАГС, дзе распісаліся. Яшчэ праз шэсць месяцаў у іх нарадзілася дзіця, для Міхася гэта здалося трохі выпадковым, але нічога, ён перажыў. Сына назвалі Петрусём.

Пятрусь спачатку хадзіў у дзіцячы садок, потым — у школу, пазней — у інстытут. У садок выпадкова трапіў побач з хатай — выпадкова пашчасціла. У школу, таксама выпадкова, з англійскім ухілам. Там яго навучылі адрозніваць, хто ёсць „ху". І не толькі гэтаму. Ён не блытаў Нью-Йорк з Вашынгтонам, кансерватараў з лібераламі. І яшчэ мог сказаць „да пабачэння" на чысцюткай англійскай мове. За гэта Петруся паважалі сябры-студэнты.

У інстытут Пятрусь, вядома, трапіў выпадкова: два асноўныя экзамены — па хіміі і па матэматыцы — здаў па шпаргалках, якія нехта з абітурыентаў выпадкова згубіў у фае інстытута.

Скончыўшы ВНУ, Пятрусь уладкаваўся працаваць адразу намеснікам дырэктара буйнога прамысловага прадпрыемства: выпадкова былога намесніка адправілі працаваць у Афрыку, а Петрусёў бацька даўно сябраваў з дырэктарам.

Да пенсіі Пятрусь Іванавіч спакойна працаваў, дзе дaслужыўся да дырэктара, а потым у краіне пачалася перабудова, і Пятрусь Іванавіч вырашыў пайсці на пенсію. Некаторым здавалася, што яму яшчэ ранавата на пенсію, бо здароўе ў Петруся Іванавіча было яшчэ о-го-го, гэта і асабісты шафёр мог пацвердзіць, і жонка, і супрацоўніцы са стала заказаў, і ўрач з лечкамісіі, дзе ён стараўся з'яўляцца не выпадкова. Сёй-той лічыў, што Пятрусь Іванавіч усёткі на пенсію ідзе выпадкова. Але гэта было не зусім так, дакладней, зусім не так, бо ў Петруся Іванавіча, акрамя добрага, моцнага здароўя, былі яшчэ кватэра з пяці пакояў, трохпавярховая дача, „Жыгулі" і ашчадная кніжачка з адзінкай і некалькімі нулямі... Пятрусь Іванавіч нават сам не памятаў, колькі іх было, бо даўно грошай з кніжкі не здымаў: можна было свабодна жыць на адны працэнты.

Аднак выпадкова, неяк пад вечар, да Петруся Іванавіча прыйшлі службовыя людзі узялі яго пад белыя рукі і некуды павялі.

— Гэта выпадкова, зусім выпадкова, — крычаў Пятрусь Іванавіч на ўсю вуліцу. — Я ж ніколі не падтрымліваў ГКЧП, толькі выпадкова ў першыя тры дні...

Але ніхто не слухаў яго. Ці мала што можа казаць чалавек, ну, зусім выпадкова?..

**Уладысь Цвяткоў**
*(„Вожык")*

## КАСЯК НА „Ч"



**Управа**: 1) пасе авечкі, 3) трава-асака, якая расце ў рэках, азёрах, на балотах, 5) у складзе Расейскай Федэрацыі, 7) жыве ў Празе, 9) жыве і думае, 12) кілішак на ножцы, 14) штэмпель, інструмент, зброя або птушка, 15)вялікая пасудзіна або затычка ў гэтай пасудзіне.

**Улева**: 2) мінулы, цяперашні, будучы, 4) у ім багаж пасажыра, 6) не сваё, 8) шкілет галавы, 10) кніжка з невялікімі тэкстамі, 11) покрыўка з тканіны, 13) шапачка замужняй жанчыны, 16) удушлівы газ або дым.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 7 н-ра. Управа:** тартак, труп, тракт, трамвай, таракан, тэзісы, токар, тона. **Улева:** торт, тартан, трактат, турма, тапонім, тапор, тэраса, тазы.

****************************************************************************************

**Ніва**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
– kwiecień – 12 000 zł.
– maj – 15 000 zł.
– czerwiec – 12 000 zł
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.